*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 13 (173) ◈ 30 сакавіка 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.




## ПОСТУП ТЫДНЯ

***ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ В. КУЗНЯЦОЎ ПРЫНЯЎ ЧАСОВАГА ПАВЕРАНАГА Ў СПРАВАХ ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ А. АЎГУЛІСА ПА ЯГО ПРОСЬБЕ.*** *У ходзе сустрэчы былі абмеркаваны ход падрыхтоўкі Дагавора аб асновах міждзяржаўных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай, працэс перагавораў паміж дзвюма краінамі, перспектывы ратыфікацыі міжурадавага пагаднення аб свабодным гандлі, падпісанага 16 сакавіка 1993 года, а таксама іншыя пытанні двухбаковых адносін.*

◆◆◆

**СТВОРАНА НОВАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ «БЕЛАРУСКАЕ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ЗГУРТАВАННЕ ВЕТЭРАНАЎ» (БДЗВ).** Старшынёй БДЗВ стаў пісьменнік Артур Вольскі. Згуртаванне аб'ядноўвае ветэранаў працы, вайны, Узброеных Сіл незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання на падставе такіх каштоўнасцей, як незалежнасць Беларусі, дэмакратыя, дзяржаўнасць беларускай мовы, нацыянальная сімволіка, адраджэнне культуры, павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва. З БДЗВ можна звязацца ў Менску па тэлефоне 33-50-12 альбо па адрасу: 220005, г. Менск, вул. Варвашэні, 8.

◆◆◆

***УПЭЎНЕНАСЦЬ У ТЫМ, ШТО ДАГАВОР АБ АБ'ЯДНАННІ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ БЕЛАРУСІ І РАСІІ БУДЗЕ АБАВЯЗКОВА ПАДПІСАНЫ,*** *выказалі пасля праведзенага 23 сакавіка раніцай у Менску першага раунда перагавораў прэм'ер-міністр Беларусі і старшыня Камітэта Савета Федэрацыі Расіі па бюджэтнаму, фінансаваму і крэдытнаму рэгуляванню, грашовай эмісіі, падатковай палітыцы і мытнаму рэгуляванню Мікалай Ганчар. Што ж датычыцца нібыта выстаўленых Расіяй патрабаванняў аб ліквідацыі Нацыянальнага банка Беларусі, увядзенні адзінага бюджэту і г. д., то М. Ганчар заявіў: непрымальных для Беларусі ўмоў расійскі бок не ставіць. Але каму верыць: калі адны гавораць адно, другія другое, трэція трэцяе, а час ідзе і канца размовам не бачна?*

◆◆◆

**ПАВОДЛЕ ДАНЫХ АПЫТАННЯ «МЫ І НАШ ЧАС»,** праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў пры садзейнічанні Міжнароднага цэнтра падтрымкі прыватнага прадпрымальніцтва (CIPE, ЗША), 34,4 працэнта грамадзян Беларусі па пяцібальнай сістэме работу Вярхоўнага Савета ацанілі самым нізкім балам, а яшчэ 34,5 працэнта — «нездавальняюча». Савету Міністраў тыя ж ацэнкі выставілі, адпаведна, 36,8 і 32,7 працэнта ад агульнай колькасці апытаных. А Вярхоўны Савет і Савет Міністраў усё працуюць і працуюць!

◆◆◆

***У МЕНСКУ АДБЫЛОСЯ АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ЗГУРТАВАННЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ.*** *Мэта ЗДМБ — згуртаваць нацыянальна свядомую моладзь, пераважна студэнцтва, акрэсліць сваю палітычную пазіцыю перад выбарамі прэзідэнта і Вярхоўнага Савета, а таксама садзейнічаць абуджэнню нацыянальнай і палітычнай свядомасці маладых, якія пакуль што не вызначылі сваёй палітычнай арыентацыі.*

# Ніл ГІЛЕВІЧ: «Мы хочам жыць, як усе добрыя людзі»

*(Інтэрв'ю з нагоды прыняцця артыкула Канстытуцыі аб дзяржаўнасці беларускай мовы)*

**— Паважаны Ніл Сымонавіч, я прыйшла да Вас сёння так, як прыходзяць да чалавека на перадавую лінію агню: пацікавіцца сітуацыяй, распытаць пра стратэгію і тактыку на бліжэйшы час і падзякаваць за мужнасць, з якой была заваявана перамога,— у дадзеным выпадку за мужнасць, з якой Вы адстойвалі ў Вярхоўным Савеце дзяржаўнасць нашай мовы і адстаялі яе. Падзеі 3 сакавіка паказалі, якая цяжкая ноша ў народнага паэта Беларусі, грамадскага і палітычнага дзеяча, дэпутата Вярхоўнага Савета РБ Ніла Сымонавіча Гілевіча, голас якога без стомы дзяўбе гранітныя душы нашых наменклатуршчыкаў-дэпутатаў, каб абудзіць у іх сумленне, павярнуць тварам да Бацькаўшчыны. Як не прыгадаць тут словы нашага класіка Максіма Багдановіча: «Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, Не давайце чужынцамі быць!» 3 сакавіка мы чулі па радыё і бачылі на тэлеэкране драматычную перапалку ў Авальнай зале Дома ўрада паміж дэпутатамі Сарокіным і Гетцам, з аднаго боку, і Гілевічам, з другога. А 4 сакавіка сродкі масавай інфармацыі разнеслі радасную вестку: «Жыве дзяржаўная беларуская мова!» Гэта перамога — Ваша перамога, Ніл Сымонавіч. Скажыце, якое зараз у Вас пачуццё на душы, калі артыкул новай Канстытуцыі аб дзяржаўнасці беларускай мовы стаў рэальнасцю?**



— Пачну з гэтага самага пачуцця. Бясспрэчна, пачуццё задаволенасці ёсць, таму што дасягнута галоўная мэта. Не ведаю, ці трэба карыстацца словам «перамога» — я трохі баюся такіх высокіх слоў. Сапраўды, наша родная мова ў Канстытуцыі запісана як мова дзяржаўная, і гэта галоўнае. Артыкул аб мовах прайшоў не ў той рэдакцыі, якая першы раз выносілася Канстытуцыйнай камісіяй на разгляд Вярхоўнага Савета, за фармуліроўку якога я змагаўся. Зараз ён гучыць так: «Дзяржаўнай мовай у Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права карыстання рускай мовай як сродкам міжнацыянальных зносін». У другой частцы артыкула, як мы бачым, гаворка ідзе толькі пра рускую мову. Абыдзены мовы іншых нацыянальных супольнасцей, якія ёсць на Беларусі. У папярэднім варыянце было дакладней: «Афіцыйны статус іншых моў вызначаны заканадаўствам». Што мелася на ўвазе? Якое заканадаўства? У нас прынята некалькі законаў, якія непасрэдна датычаць культуры і мовы іншых нацыянальных супольнасцей. Гэта Закон аб мовах, Закон аб адукацыі, Закон аб культуры, Закон аб нацыянальных меншасцях, Закон аб грамадзянстве. У кожным з іх так ці іначай, асабліва ў першых двух, вызначаецца статус іншых моў, якія бытуюць на Беларусі. Але вось такая рэдакцыя не была прынята і зразумела чаму. Пэўныя сілы хацелі абавязкова вылучыць з усіх моў менавіта рускую мову як мову з асаблівым становішчам і асаблівымі правамі ў нас. Вядома, руская мова — так ужо склалася не толькі ў Беларусі, а, бадай, ва ўсіх рэспубліках былога СССР — сапраўды займае асобае становішча. Але ж мы гаворым пра будучыню, і мы хочам паважаць усе народы, усе нацыянальныя супольнасці, якія жывуць у нашай краіне. Барацьба і за гэту рэдакцыю, якой, паўтараю, мы можам быць задаволены, бо наша мова абвешчана дзяржаўнай, была досыць драматычнай. Двойчы не прайшоў артыкул у першай рэдакцыі. Пасля гэтага шукалі выйсця. І «знайшлі» яго. Я асабіста быў вельмі здзіўлены, што Канстытуцыйная камісія ні да чаго лепшага не дадумалася, як наогул зняць з Канстытуцыі артыкул аб мовах. Вядома, у свеце ёсць канстытуцыі, дзе артыкул аб мовах адсутнічае, але гэта канстытуцыі тых краін, дзе і праблемы моўнай няма. А для нас без перабольшання гэта — пытанне жыцця і смерці нашай мовы, а, па сутнасці, і нашай нацыі, бо што б ні гаварылі, як бы ні апраўдвалі іншую пазіцыю, іншае разуменне, а ўсё ж такі ісціна адна: будзе жыць наша мова — будзе жыць і нацыя, беларускі народ як нацыя са сваім нацыянальным абліччам. Не будзе мовы — усё патрошку сыдзе ў заняпад і знівеліруецца. Усё, што нас вылучала сярод народаў свету і сярод славянскага сямейства, сатрэцца канчаткова. Таму што гэты нялюдскі працэс увесь час ішоў, набіраў сілу, і тыя, хто быў здольны думаць і бачыць, прадбачылі, чым гэта можа скончыцца, калі не ступіць на шлях барацьбы, калі не змагацца за мову, за нашу нацыянальную самабытнасць, за нашу будучыню. Тым не менш, Канстытуцыйная камісія прапаноўвае зняць зусім артыкул аб мовах, што і было абвешчана на сесіі. Вядома ж, нам, хто кожны дзень гэтым пытаннем жыў, турбаваўся, перажываў, стала адразу зразумела, якая страшная небяспека тоіцца ў гэтым. Што значыць зняць зусім з Кансты-

**Працяг на стар. 2, 3.**

# У МАЛДОВЕ НАРОД ПАЖАДАЎ ЗАСТАЦЦА МАЛДАВАНАМІ

*Рэха*

**Няўжо ў кожнага народа абавязкова павінен існаваць «вялікі брат», які з усяе сілы імкнецца прыгарнуць «меншага» да сябе — ажно да поўнага «зліцця»? Для чаго прыгарнуць? А каб «малодшаму» эканамічна лягчэй жылося. Не будзем гаварыць нешта наконт Расіі, тым болей, што гэта гневіць нашых генералаў-дэпутатаў. У Малдове, напрыклад, пасля распаду СССР узнік новы блізкі родзіч — Румынія. На падставе роднасці моў і культур вельмі актыўная палітычная групоўка ад імя, вядома ж, народных мас запатрабавала хутчэйшага зліцця Малдовы з Румыніяй. Урэшце прэзідэнт Мірча Снегур дамогся, каб усё ж гэты народ сам і сказаў, што ён думае. 6 сакавіка было праведзена ўсенароднае сацыялагічнае апытанне. 90 працэнтаў грамадзян, што ўзялі ў ім удзел, выказаліся за незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць, адзінства межаў дзяржавы, якая павінна і надалей называцца Малдовай, жыхары яе — малдаванамі, а мова, нягледзячы на вялікую блізкасць з румынскай, — тым не менш малдаўскай мовай. Адначасова, як паведамляюць сродкі масавай інфармацыі, група вядомых прадстаўнікоў малдаўскай інтэлігенцыі накіравала пратэст у ААН, у якім негатыўныя водгукі румынскай прэсы і некаторых палітычных рухаў расцэньваюцца як недапушчальнае ўмяшанне ва ўнутраныя справы Малдовы.**

Ул. Ас.

***САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ ВЫЗНАЧЫЎ НАМІНАЛЬНЫ КОШТ*** *(25 тысяч беларускіх рублёў) імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць», якія будуць выдавацца грамадзянам краіны з 1 красавіка 1994 года.*



# Ніл ГІЛЕВІЧ: «Мы хочам

Пачатак на стар 1.

туцыі артыкул аб мовах? Значыць, застаецца ў сіле Закон аб мовах, але ж гэты Закон, прыняты звычайнай большасцю галасоў, а не канстытуцыйнай. Забяспечыць жа звычайную большасць галасоў вельмі лёгка. Заўтра ж паставяць на галасаванне пытанне аб дзвюх дзяржаўных мовах, дакладней, аб змяненні адпаведнага артыкула ў Законе аб мовах, аб тым, што не адна — наша беларуская,— а дзве мовы з'яўляюцца дзяржаўнымі, і большасцю галасоў лёгка здабудуць перамогу, якая для нас, беларусаў, абернецца катастрофай. Мы гэта адразу зразумелі, і тут ужо нічога не заставалася, як «кідацца на амбразуру». Тут Ваш пакорны слуга і падхапіўся. Я ўспамінаю, што гэта было не выступленне, а крык душы і крык паратунку і зварот да ўсіх — да рускіх, да палякаў, да ўкраінцаў, да яўрэяў, якія з намі жывуць і якія павінны зразумець наша становішча. І да дэпутатаў-беларусаў. Ім я гаварыў: усе, хто з вас помніць, дзе вы нарадзіліся, хто помніць мову бацькоў, адумайцеся, апамятайцеся і ў такім разе проста не галасуйце за гэту Канстытуцыю, наогул — за Канстытуцыю, у якой будзе наша нацыянальная пагібель. Сапраўды, гэта быў драматычны эпізод у гісторыі сесіі. У падтрымку выступілі некаторыя дэпутаты — Лявон Баршчэўскі, Яўген Цумараў. Было выступленне дэпутата Гетца, які рашыў, што мае права яшчэ і прысарамаціць дэпутата Гілевіча.

**— Ён прапанаваў Вам пакаяцца.**

— Я на перапынку спытаў у яго: «Шаноўны дэпутат Гетц, у чым жа я павінен пакаяцца? У тым, што я заклікаў вас усіх зрабіць па справядлівасці — прагаласаваць за выратаванне нашай мовы? Чаму Вы мне прыпісваеце, што нібыта я заклікаю моладзь да бунту? Нічога падобнага ў маім выступленні няма. Я проста сказаў, што нацыянальна свядомая моладзь абавязкова зрэагуе, калі, не дай Божа, будзе прынята Канстытуцыя без артыкула аб мове. І зрэагуе яна вельмі кепска. Вы пасееце смуту. Гэтым мы не палепшым грамадска-палітычнае становішча ў рэспубліцы, не стабілізуем яго». На жаль, дэпутат Гетц застаўся пры сваёй думцы.

**— Ніл Сымонавіч, ці чакалі Вы такога выніку?**

— У добрым выніку я не быў упэўнены. Зрэшты, калі гаварыць пра тое, ці змянілася пазіцыя дэпутатаў у адносінах да нашай мовы, то я перакананы, што ў людзях яшчэ цалкам не пагасла пачуццё нацыянальнай годнасці, не страчана здольнасць вярнуцца да ўласнага духоўнага нацыянальна-дзяржаўнага жыцця. Хачу нагадаць, што нават на Вярхоўным Савеце папярэдняга склікання, менавіта 26 студзеня 1990 г., быў прыняты Закон аб мовах, а той Вярхоўны Савет, у адрозненне ад гэтага, не лічыўся дэмакратычным. Аўтаматычна тады ж была ўнесена і папраўка ў Канстытуцыю. На папярэдняй сесіі першае галасаванне па 17-му артыкулу дало 204 галасы. Зыходзячы з рэальнай сітуацыі, я спадзяваўся, што на бягучай сесіі артыкул набярэ патрэбную колькасць галасоў, а іменна 232. Атрымалася наадварот. Новае галасаванне дало ўсяго 158 галасоў. Чаму так сталася? Змянілася палітычная сітуацыя ў Расіі, змянілася яна і ў нашым Вярхоўным Савеце. Выраслі спадзяванні ў пэўных сіл, у тых, скажам, каго Купала назваў «ворагамі беларушчыны», што можна і ў нас павярнуць ход падзей назад. У іх і нарадзілася думка зусім зняць артыкул аб мове з Канстытуцыі. Упэўненасці ў тым, што большасць дэпутатаў за яго прагаласуе, у мяне не было. Мяркую, што многія дэпутаты, змагары за дзяржаўнае двухмоўе, спалохаліся, што мой заклік не галасаваць за Канстытуцыю зусім можа правaліць яе прыняцце. А гэта не ў іх інтарэсах. Таму што ім трэба хутчэй прыняць Канстытуцыю, дзе ёсць раздзел аб прэзідэнцкай форме кіравання, і хутчэй паставіць на прэзідэнцтва свайго чалавека, які будзе мець надзвычайныя паўнамоцтвы ў дзяржаве. Я таксама за тое, каб новую Канстытуцыю прыняць. Але —якой яна павінна быць? Калі, скажам, гэта будзе Канстытуцыя без дзяржаўнай беларускай мовы, то на што мне такая Канстытуцыя? І нашто мне такая дзяржава, дзе я перастану быць як чалавек, як беларус, як грамадзянін самім сабою?

**— Ніл Сымонавіч, якія Вашы палітычныя прагнозы на бліжэйшы час? Чаго нам далей чакаць ад Вярхоўнага Савета, калі Канстытуцыя прынята цалкам?**

— Цяпер, відавочна, будзе яшчэ прыняты закон аб прэзідэнцкіх выбарах, і з той мінуты, як ён будзе прыняты, пачнецца барацьба за пасаду прэзідэнта. Нічога добрага ад гэтай барацьбы я не чакаю. Асабіста я супраць прэзідэнцкай формы кіравання, таму і не галасаваў імянным бюлетэнем за тры раздзелы Канстытуцыі. Лічу, што наша грамадства яшчэ не гатова мець прэзідэнта. Нам лепш мець формай дзяржаўнага кіравання парламент, дзе, дасць Бог, збярэцца дастаткова светлых разумных галоў, якія і будуць выпрацоўваць законы, а ўрад будзе строга гэтыя законы выконваць. Баюся, што прэзідэнт у нас хутка ператворыцца ў таго «бацьку з палкай», пра якога яшчэ Аляксей Талстой у сваёй «Истории государства российского...» пісаў, маючы на ўвазе Пятра І: «Он молвил: мне вас жалко, Вы сгинете вконец. Но у меня есть палка, И я вам всем отец!» Пры нашым узроўні культуры і грамадскай маралі атрымаць такога «бацьку з палкай»—небяспека зусім рэальная. Калі б я бачыў таго, хто, стаўшы прэзідэнтам, будзе мудрым, інтэлігентным кіраўніком, чалавекам высокай культуры, і калі б я ведаў, што ёсць гарантыі перамогі такога чалавека на выбарах, я б пагадзіўся на прэзідэнцкую форму кіравання. Аднак баюся, што ў нашай сённяшняй сітуацыі пераможа на прэзідэнцкіх выбарах іншы чалавек. Пераможа той, хто ўсю сваю прадвыбарчую праграму пабудуе на спекуляцыі сацыяльнымі бедамі нашых людзей, на сацыяльнай дэмагогіі. Нічым так лёгка не заваюеш душу і сэрца беднага, няшчаснага паўгалоднага чалавека, як сацыяльнай дэмагогіяй. Мы ведаем гэта з гісторыі.

**— Да ўлады, магчыма, прыйдзе «жырыноўшчына», якая шмат чаго абяцае народу?**

— Магчымы і такі вынік. Хіба Гітлер не павёў за сабою народ? За ім пайшла не толькі дробная буржуазія, гандляры, крамнікі, а і рабочыя, і інтэлігенцыя. Ёсць небяспека, што ў нас на прэзідэнцтва можа прабіцца вельмі нядобры чалавек, які ў сацыяльнай дэмагогіі стрымліваць сябе не будзе, абяцанняў будзе даваць шмат: «Вот давайце зломім-скрышым, гэтых баламутаў-дэмакратаў, расправімся з імі канчаткова, навядзём парадак, і ўсё ў нас будзе выдатна!» А на аснове чаго будзе гэтае «выдатна»? На аснове тэрору? Калі не будзе каму сказаць слова праўды, тады лёгка будзе здаць краіну з усімі яе багаццямі суседняй дзяржаве.

**— Ці ёсць у Вашых апанентаў мэта дзеля карысці свайго «жывата» здаць суверэнітэт Беларусі?**

— У адных, несумненна, яна ёсць, а ў другіх, хачу спадзявацца, яе няма. І што гэтыя другія ў апошні час шмат думаюць, разважаюць, у тым ліку і аб тым, хто мы ёсць і якая на нас, як на дзяржаўных людзей, кладзецца сёння адказнасць.

**— У чым жа ўсё-такі прычына негатыўнага стаўлення многіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета да беларускай мовы?**

— Дэпутаты, якія рэзка выступаюць супраць беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і дабіваюцца дзяржаўнага двухмоўя, кіруюцца, канешне ж, палітычнымі меркаваннямі. І тут не трэба гуляць у жмуркі. Ніхто не павінен рабіць выгляд, што не разумее, у чым тут справа. Гэтыя людзі не могуць змірыцца з тым, што Беларусь стала самастойнай і незалежнай. Яны не хочуць прызнаць законнае, Богам дадзенае права нашаму народу на свой дзяржаўны суверэнітэт. Яны крычаць, што без суверэнітэту будзе лепш. Для каго лепш? Можа, для іх і будзе лепш, але ці будзе гэта лепш для беларусаў? Мы бачым, да чаго ўсё дайшло, да чаго была зведзена беларуская школа, культура, на якіх задворках апынулася наша мова. І кожны раз паўставала пытанне: «У імя чаго гэта робіцца? Каму і навошта патрэбна, каб знікла на зямлі адна са славянскіх моў — такая распрацаваная, развітая, багатая, на якой створана выдатная літаратура, што выйшла ў вялікі свет?» Вось на гэта пытанне ніхто з іх і ніколі не даў адказу. Па сваёй выхаванасці і далікатнасці мы адкрыта стараліся не гаварыць, каму замінае беларуская мова, ды, відаць, прыйшла пара сказаць. Таму што заставацца далікатнымі ў той час, як бачыш, адчуваеш, што на цябе глядзяць як на дурня,— нельга.

**— Гэта называецца талерантнасцю беларусаў.**

— Ну так, мы і самі звыкліся з тым, што нас хваляць за сціпласць і талерантнасць. Выдатна! Мы сапраўды хочам быць талерантнымі, і мы не крычым на ўвесь свет аб сабе і сваіх якасцях, але мы хочам жыць, як і ўсе людзі, сваім жыццём. Таму і кажам: «Шаноўныя, паважаныя, не бярыце нас за горла, дайце нам падыхаць і пажыць так, як нам хочацца! Раз усе вы лічыце, што мы сціплыя і талерантныя, дык адкуль жа ў вас тады страх? Я ўжо тут звяртаюся да братоў нашых іншых нацыянальнасцяў: адкуль жа тады страх, калі вы ведаеце, што нішто вам у нас і ад нас не пагражае,— у адрозненне ад іншых кропак на планеце, дзе ўзнікае нацыянальная варажнеча аж да нацыянальных канфліктаў? Мы сапраўды пастараемся ўсё зрабіць так, каб усім вам на Беларусі было добра. Зразумейце толькі і вы нас».

У прынцыпе я хацеў бы, каб наша пазіцыя такой і заставалася, каб нас ведалі як культурную нацыю, як цывілізаваную нацыю, з якой усім добра жыць. Бясспрэчна, пры ўмове, што нацыянальныя меншасці будуць ведаць, дзе, сярод якога карэннага народа яны жывуць, якая наша культура і гісторыя, і што яны прымаюць ўсе законы нашай беларускай дзяржавы. І тады, я ўпэўнены, што ўсім на нашай зямлі будзе добра — і беларусам, і небеларусам.

**— Ніл Сымонавіч, сённяшні дзень для Вас — зацішша перад бурай. А якую стратэгію і тактыку ў сваёй палітычнай барацьбе Вы прадбачыце на бліжэйшы час?**

— Рэальнасць такая: прыняты вельмі важны артыкул нашай Канстытуцыі. Аднак нельга думаць, што яго ажыццяўленне будзе простым, лёгкім і хуткім, і што ў бліжэйшыя гады мы ўжо ўбачым плады і вынікі гэтай заканадаўчай перамогі. Ажыццяўленне артыкула аб мове будзе няпростым і няскорым. Спадзявацца, што сілы, якія супраціўляліся яго паяўленню, тут жа «складуць зброю», будзе наіўнасцю. Яны з гэтым не змірацца. У той дзень, калі прымаўся ў Вярхоўным Савеце дадзены артыкул, у сакратарыят ішлі тэлеграмы, тэлефанаграмы, абразлівыя для нашай мовы і асабіста для мяне. Вядомы і факты прамога сабатажу Закона аб мовах у рэспубліцы. Вы пытаеце пра нашу стратэгію і тактыку? Стратэгія зразумелая. Нам трэба, каб беларуская мова канчаткова замацавалася ў якасці дзяржаўнай ва ўсіх сферах афіцыйнага ўжытку. Тады яна непрыкметна стане мовай і нашых сем'яў, мовай міжзносін на побытавым узроўні. Гэта непазбежна. Вось наша вялікая мэта, на якую трэба пакласці ўсе сілы. А што да сродкаў і прыёмаў ажыццяўлення прынятага артыкула, якою павінна быць наша тактыка, аб гэтым цяпер трэба думаць не толькі дэпутатам Вярхоўнага Савета, а і ўсім патрыётам роднага слова.

Што рабіць, каб выконваўся Закон аб мовах і выконваўся ў тыя тэрміны, якія ў ім пазначаны? На вялікі жаль, гэтыя тэрміны моцна парушаюцца. Многія міністэрствы і ведамствы быццам бы і не чулі пра такі закон. Мы ад сваёй камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны разаслалі па установах просьбы прыслаць звесткі, як ажыццяўляецца Закон. Ёсць прыемныя звесткі. Некаторыя міністэрствы прынялі Закон аб мовах да сэрца як свой патрыятычны абавязак. Я маю на ўвазе перш за ўсё сферу адукацыі і культуры, а таксама Міністэрства ўнутраных спраў, дзе шмат што зроблена для пераходу на беларускую мову: служачыя яе вывучаюць, пачынае весціся дакументацыя на ёй. Аднак у цэлым справа гэтая ідзе са скрыпам і з нежаданнем прыкласці да яе ну хаця б частачку сваёй душы. А чаму? Давайце зноў вернемся да вялікай палітыкі. А таму, што ўсё яшчэ жывуць ілюзіі, быццам кола гісторыі павернецца назад і мы зноў утворым штосьці накшталт СССР, або яшчэ горш — увойдзем у рускую федэрацыю на правах вобласці ці аўтаномнага краю.

**— Рэальная небяспека вярнуцца да ранейшых парадкаў усё ж існуе?**

— У тым і справа, што існуе. І тыя, хто гэту небяспеку арганізоўваюць, канешне ж, не імкнуцца забяспечыць дзяржаўнае становішча беларускай мове, бо яны ж таксама не наіўныя. Яны разумеюць, што значыць дзяржаўная мова ў дзяржаве. Калі яна запануе — тады ўжо цяжка будзе павярнуць гісторыю назад. Таму што чалавек, які авалодаў роднай мовай, адчуў яе сілу і хараство, тое, што яна яго ўласная мова,— такі чалавек робіцца нацыянальна свядомым. І гістарычна свядомым. Ад ведання сваёй мовы ён пераходзіць да ведання сваёй гісторыі, культуры, традыцыяў і звычаяў, становіцца іншым чалавекам, іншым грамадзянінам. І яго павярнуць назад будзе проста немагчыма. Ён скажа: «Дзякую за ласку, але я нарэшце пачуўся чалавекам і грамадзянінам сваёй Маці-Беларусі». А таварышы ўсё яшчэ спадзяюцца і разлічваюць на вяртанне старога. Самі сябе яны лічаць палітычнымі лідэрамі, у тым ліку і дэпутаты Вярхоўнага Савета. Не могучы, не жадаючы знайсці выйсця са становішча, годнае грамадзян і патрыётаў, яны запрашаюць нас то ў агульную грашова-фінансавую сістэму, то ў ваенны саюз, то ў федэрацыю, аж да агульнай дзяржаўна-палітычнай структуры з Расіяй.

**— І пры гэтым матляюць жупелам нацыяналізму.**

— Наконт гэтага самага жупела нацыяналізму. Ужо 40 гадоў як я прафесійна працую ў літаратуры і ўсё чую ледзь не кожны дзень, як ім палохаюць у Беларусі людзей. І ўсё чакаю: ну калі вы стоміцеся, шаноўныя. калі вам, папросту кажучы, языкі не забаляць? Як вам урэшце не сорамна? Няўжо ў вас няма іншых клопатаў? Дзе і ў чым вы бачыце нацыяналізм? Аднак канца гэтаму няма. Больш таго, пачасціліся апошнім часам пісьмы і тэлеграмы ў Вярхоўны Савет, з'яўляюцца публікацыі, як ні дзіўна, у афіцыйных урадавых газетах, якія «даказваюць», што ў Беларусі разрасцецца нацыяналізм, калі законныя правы набудзе беларуская мова. Канешне ж, яны не вераць у гэта самі. Дык дзе ж прычына ўсіх прычын? У чым наша бяда? ***У дзяржаве павінна праводзіцца нацыянальна-культурная палітыка, угрунтаваная на беларускай ідэі. Яна павінна ажыццяўляцца клопатамі дзяржавы. Дзеля гэтага ўсе дзяржаўныя мужы, кіраўнікі дзяржавы, і самыя высокія, і ўсіх іншых узроўняў і рангаў, павінны быць нацыянальна свядомымі людзьмі.*** Я не ўяўляю, каб у якой-небудзь еўрапейскай дзяржаве — назавіце мне любую — на чале стаялі людзі, якім бракавала б гэтага глыбокага ўсведамлення: я сын (ці дачка) сваёй зямлі, свайго народа. Я нясу адказнасць за яго будучыню, я хачу, каб мой народ жыў на гэтай зямлі вечна са сваім духоўным аблічам, жыў так, каб яго шанавалі ў свеце . Усюды дзяржаўныя мужы робяць усё дзеля таго, каб падняць аўтарытэт сваёй нацыянальнай дзяржавы. У нас жа, на вялікі жаль, дзяржаўныя мужы ў сваёй большасці гэтага як бы не разумеюць. Ім бракуе нацыянальнага пачуцця — гэта ёсць закамплексаванасць правінцыялаў, якія спадзяюцца, што дзесьці ёсць больш мудры і багаты дзядзька, і трэба на яго ўскладаць надзеі, а самі мы ні на што не здольныя. Калі б у нас кіраўніцтва было іншае, то проста не ўзнікла б і моўнай праблемы. У іншых дзяржавах свету такіх праблем няма. Там усімі

# жыць, як усе добрыя людзі»



вызнаецца азбучная ісціна: ёсць дзяржава — ёсць і дзяржаўная мова. На ёй працуюць усе ўстановы, яе вывучаюць усе школы. Нацыянальныя меншасці ў сваіх нацыянальных школах таксама вывучаюць дзяржаўную мову. Гэта тое, што ад роду, ад веку натуральнае, што разумеецца само сабой і не патрабуе тлумачэнняў. У тых дзяржавах клапоцяцца пра мову ў іншым сэнсе. Клапоцяцца, напрыклад, каб родную мову не прыніжалі і не засмечвалі. Дзейнічаюць спецыяльныя законы па ахове яе чысціні і культуры. Скажам, у Францыі ёсць ажно пяць камітэтаў і камісій дзяржаўнага характару, не лічачы грамадскіх, якія стаяць на варце французскай мовы. У цэлым свеце клопат аб мове такі ж, як аб надзённым хлебе. А ў нас усё іначай. У нас такі, здавалася б, звычайны і зразумелы клопат пра родную мову, яе становішча і правы ўспрымаецца як нейкае злачынства, як нешта незаконнае, што пагражае бяспецы нашых добрых грамадзян. Вось у чым наша бяда.

**— Сапраўды манкуртызм шырока распаўсюджаны ў беларусаў. Паколькі на яго «хварэюць» вышэйшыя эшалоны ўлады, то і адносіны да мовы грэблівыя і пагардлівыя. Не магу зразумець такую анамалію душы! Чым яе растлумачыць?**

— Пра гэта я многа думаў. Здзіўляюся, чаму нашы кіраўнікі не могуць мабілізаваць свае ўнутраныя, душэўныя рэсурсы, свой інтэлект, каб зразумець, што яны памыляюцца. Вядома, камусьці крыўдна і клопатна, што ў паважным узросце даводзіцца вяртацца да мовы, ад якой адвык. І ўсё-такі, чаму б не прыйсці да такой высновы, што лепш позна, чым ніколі? Гэта якраз той выпадак, калі трэба сабе сказаць: «Ну добра, мяне ўводзілі ў зман, мяне так выхавалі, але ў гэтым я не вінаваты», пасля чаго павярнуцца сэрцам да занядбанай Бацькаўшчыны і роднай культуры; да сваёй гісторыі, да тых жа песень, да народнага побыту, традыцый, звычаяў. Тады б і дайшоў да думкі, як яго абакралі, што ўжо нават і гаварыць на мове дзядоў-прадзедаў не можа. Вядома, ёсць людзі безнадзейныя, а многім вярнуцца на ўлонне роднай мовы, па маіх назіраннях, перашкаджае звычайная душэўная лянота. У былых вучняў беларускіх школ не-не ды і прарвецца роднае слова. Здавалася б, яшчэ трошкі намаганняў, і ўсё стане на месца. Ды штосьці стрымлівае чалавека. Думаю, што гэта духоўная лянота, недахоп унутранай культуры.

**— Якую не набылі ў маладосці...**

— Гэта так. Яны лічаць, што той мінімум этыкі, які набылі ў маладосці, і ёсць культура. І гэтага дастаткова. У іх аказаўся неразвітым, відавочна, духоўны пачатак. Ім проста гэта нецікава. Вы думаеце, што такія людзі не чытаюць толькі Гарэцкага, Быкава ці Брыля? Я думаю, што яны ўвогуле не чытаюць сур'ёзную мастацкую літаратуру і на рускай мове, а чытаюць толькі штосьці лёгкае, як адзін гумарыст сказаў — «тое, што для казытання пятак», а не для ўзбагачэння свайго духоўнага свету. Так што гэта праблема яшчэ ўвязваецца з праблемай агульнага культурнага ўзроўню нашага грамадства і грамадзян. А гэта, у сваю чаргу, увязваецца з сістэмай нашай адукацыі, з нашай школай. Каго мы выпускаем, у прыватнасці, з вышэйшай школы? Хто сёння займае пасады на абласных узроўнях і гарадскіх? У міністэрствах і Саўміне? Часцей за ўсё гэта выпускнікі тэхнічных і сельскагаспадарчых інстытутаў. А мы ведаем, як там было пастаўлена да нядаўняга часу выкладанне гуманітарных дысцыплін. Усё зводзілася да так званай марксісцка-ленінскай філасофіі. Хоць філасофіяй яе цяжка назваць. Гэта ўсё-такі ідэалогія і палітыка. Увесь час трацілася на гэта, а ніводзін сур'ёзны філосаф свету не вывучаўся. Эстэтычныя тэорыі тым больш не выкладаліся. Далучэнне да літаратуры і мастацтва цалкам трымалася на самаініцыятыве. Калі ў некага жыло штосьці высокае ў душы, той чытаў, хадзіў у тэатры. Але ў большасці выпадкаў студэнт выходзіў з ВНУ з дыпломам спецыяліста, але не культурным і не высокаадукаваным інтэлігентам.

**— Ніл Сымонавіч, давайце яшчэ зазірнём у літаратурную шкатулку. Сёння Вашы творы, як ніколі, насычаны грамадзянскім пафасам, болем за родную Беларусь.**

— Калі Вы перагортваеце мае паэтычныя старонкі апошняга часу, то заўважаеце, напэўна, што там большасць плошчы займае размова вершам пра тое, што мне баліць як грамадзяніну, як народнаму дэпутату, як чалавеку. Гэта працяг тых жа клопатаў, трывог і занепакоенасці, якія я выказваю і ў дэпутацкай зале, і ў службовым кабінеце, і на кожным кроку. Тая ж самая размова толькі іншымі сродкамі.

**— І я б сказала — у больш адкрытай форме, бо душа аголеная, безабаронная, спакутаваная...**

— Безумоўна, ёсць мова дыпламатыі і ёсць мова паэзіі. Яны не супадаюць. Мова дыпламатыі для паэзіі ўвогуле непрыдатная. У паэзіі павінен быць шчыры голас, адкрыты насцеж. Ва ўсякім разе я хачу спадзявацца, што заўсёды — і сёння, і некалі — мною шчыра гаварылася і тое, у што верыў, і тое, у што прымушалі верыць. Цяпер ідуць да мяне папрокі — балючыя і несправядлівыя: як жа так, вот Вы прысвячалі... і славілі... Так, і славіў, і прысвячаў, хоць не так і багата. І не адмаўляюся, не закрэсліваю сябе таго, ранейшага. Я, ведаеце, не належу да тых, хто лёгка развітваецца са сваім мінулым. Памяняў перакананні, як мяняюць кашулю ці пальчаткі,— і ты ўжо іншы. Для мяне гэта — боль, гэта — нават больш чым драма; гэта трагедыя для мяне. Таму: не лезьце, прашу грамадзян, у маю душу. Я сам перажываю, думаю, але я сябе, сваё мінулае жыццё не закрэсліваю. Яно маё. Іншага ў мяне не было і ўжо не будзе. Таму не спяшайцеся асудзіць. Чытайце тое, чым я жыву сёння, калі ўвогуле вы хочаце і здольныя зразумець чалавека. Пастарайцеся зразумець мяне па сённяшніх маіх вершах. Там я гранічна шчыра гавару пра свае пакутныя роздумы, пра тое, што ў мяне сёння робіцца на душы і што робіцца з душою. Там усё гэта ёсць. Калі хто ўважліва чытае, ён гэта адчуе, і, спадзяюся, не стане папракаць мяне, што вось ты быў гэткім, а цяпер стаў такім...

**— Змяніліся погляды на стан рэчаў, але ж не творчае крэда — служыць роднаму слову і яго носьбітам.**

— Сапраўды так. Гэта магла быць іншая падсветка, магла мець месца наіўнасць, але ніхто не папракне мяне ў тым, што, скажам, тады я не цаніў, не даражыў, больш таго, не змагаўся за роднае слова, за духоўную самабытнасць народа, яго культуру, яго гісторыю, што я займаў па самаму галоўнаму, чым я жыву, іншую пазіцыю.

**— Што б Вы хацелі сказаць або пажадаць чытачам «Нашага слова»?**

— Я не часта бяру слова на старонках штотыднёвіка ТБМ. Часцей за ўсё я на іх трапляю з нейкім дакладам ці выступленнем. Таму я хацеў бы непасрэдна звярнуцца да чытачоў «Нашага слова» і сказаць, што я іх шаную, бо гэта людзі, якія шукаюць праўду для душы на старонках нашай газеты і якія прыходзяць да гэтай праўды, прабіваюцца да яе, або якія ўжо прыйшлі да яе і зараз падтрымліваюць гэты агмень, гэты светач. Я звяртаюся да чытачоў і падпісчыкаў газеты з просьбай, каб яны не шкадавалі часу і энергіі, якая трацілася на тое, каб далучыць як мага больш людзей да нашага сціплага, але такога патрэбнага выдання. Каб яны імкнуліся тлумачыць людзям, што гэта не нейкая там газета, а тая, якую сёння трэба чытаць. Бо, як сказана ў Святым пісанні, на пачатку было Слова, і Слова было Бог. Ад слова вельмі і вельмі многае залежыць. Чым больш будзе ў «Нашага слова» чытачоў, тым больш вялікая праўда, якою мы жывём, заваюе на свой бок прыхільнікаў. Тым хутчэй гэта праўда стане набыткам нашых, на сённяшні дзень бедных, добрых людзей, якія вартыя куды лепшай долі, чым тая, якая сёння ў іх ёсць.

**— Шчыра дзякую за гутарку.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

*Конкурсы Таварыства*

# ЗА НАША НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

ПАСТАНОВАЙ Рэспубліканскай Рады ТБМ аб'яўлены Рэспубліканскі конкурс на лепшую арганізацыю, першасную суполку, калектыўную сябрыну ТБМ па выкананні Статутных абавязкаў.

Конкурс прымеркаваны да пятых угодкаў з дня заснавання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (27 чэрвеня 1989 года).

Ніжэй друкуюцца ўмовы конкурсу.

**УМОВЫ РЭСПУБЛІКАНСКАГА КОНКУРСУ на лепшую абласную, гарадскую, раённую (рэгіянальную) арганізацыю, першасную суполку, юнацкую секцыю, калектыўную сябрыну ТБМ па выкананні статутных абавязкаў, прымеркаванага да пятых угодкаў заснавання ТБМ.**

**Конкурс праводзяць Рэспубліканская Рада ТБМ сумесна з арганізацыямі-заснавальнікамі ТБМ і газетай «Наша слова». Тэрмін 22 сакавіка — 25 траўня 1994 года.**

**Галоўная мэта конкурсу атрымаць падрабязны летапіс жыцця і дзейнасці адпаведнай арганізацыі ТБМ (першаснай суполкі, калектыўнай сябрыны і іншых самадзейных аб'яднанняў). Пры гэтым пажадана асвятліць наступныя пытанні:**

**дата заснавання арганізацыі, прозвішчы заснавальнікаў і цяперашніх кіраўнікоў арганізацыі, суполкі, калектыўнай сябрыны і інш. з указаннем усіх адрасных даных;**

**колькасны склад (колькасць суполак, сяброў ТБМ, юнацкіх секцый і сяброў у іх), наяўнасць іншых самадзейных арганізацый, прадугледжаных Статутам ТБМ:**

**наяўнасць банкаўскага рахунку;**

**наяўнасць друкаванага органа (асобнага ці сумесна з іншымі арганізацыямі), перыядычнасць выхаду, іншыя формы выкарыстання мясцовых сродкаў масавай інфармацыі:**

**наяўнасць камісій па асноўных напрамках статутнай дзейнасці ТБМ;**

**выкарыстоўваемыя дзеля ажыццяўлення статутнай дзейнасці формы работы (алімпіяды, конкурсы, лекторыі, гурткі, мастацкая самадзейнасць, краязнаўства, тапаніміка і г. д.);**

**умовы працы (наяўнасць памяшкання, тэлефона, наяўнасць штатнай адзінкі, садзейнічанне ў гэтым мясцовых органаў улады);**

**супрацоўніцтва з мясцовымі органамі ўлады па выкананні Закона аб мовах;**

**сувязь з рэдакцыяй газеты «Наша слова», прапаганда газеты і яе вынікі (колькасць падпісчыкаў);**

**удзел у прапагандзе і распаўсюджванні твораў беларускіх пісьменнікаў, беларускамоўных выданняў;**

**садзейнічанне ў адкрыцці беларускамоўных дзіцячых садкоў і школ, пераходу вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў на беларускую мову;**

**сувязь арганізацый ТБМ з ветэранамі нацыянальнага адраджэння, краязнаўцамі, пісьменнікамі, якія пражываюць на тэрыторыі рэгіёна, якую дапамогу аказваюць актывісты ТБМ гэтай катэгорыі людзей, які ўдзел прымаюць яны ў рабоце ТБМ;**

**арганізацыя курсаў беларускай мовы рознага профілю, наладжванне выдавецкай дзейнасці па выпуску вучэбных дапаможнікаў, слоўнікаў-мінімумаў, навучальных аўдыёвізуальных сродкаў (пажадана даслаць, калі яны ёсць, узоры самадзейных выданняў);**

**работа па стварэнні паўсюдна беларускамоўнага асяроддзя, садзейнічанне ў пашырэнні беларускамоўнай аўдыёвізуальнай інфармацыі ў дзяржаўных, грамадскіх арганізацыях і ўстановах, на прадпрыемствах гандлю, на транспарце, на заводах і фабрыках і інш.;**

**спрыянне ў перакладзе на беларускую мову надпісаў на тапанімічных, манументальных помніках, збудаваннях, дарожных і тапанімічных знаках і г. д.;**

**правядзенне конкурсаў беларускіх абласных, раённых, шматтыражных газет на лепшы нумар па культуры мовы.**

**Пералічаныя пажаданні — гэта толькі частка звестак, якія хацелася б атрымаць у выніковай інфармацыі.**

**Пажадана, каб у матэрыялах, якія будуць дасланы Рэспубліканскаму журы, былі названы прозвішчы найбольш актыўных сяброў ТБМ, сказана пра іх канкрэтны ўклад у выкананне Статута ТБМ, у нацыянальнае адраджэнне.**

**Падрыхтоўку неабходнай інфармацыі і вызначэнне асноўных вынікаў, найбольш актыўных сяброў ТБМ пажадана правесці сумесна з мясцовымі арганізацыямі-заснавальнікамі і, у першую чаргу, з установамі культуры і народнай адукацыі, рэдакцыямі сродкаў масавай інфармацыі, прадпрыемствамі кніжнага гандлю. Усе матэрыялы за подпісам членаў мясцовых журы накіроўваць на адрас:**

**220005, Менск, вул. Румянцава, 13, ТБМ, з паметкай «На конкурс». Апошні тэрмін прыёму матэрыялаў да разгляду 27 траўня 1994 года.**

**Калектыўныя сябрыны, якія зарэгістраваны пры Сакратарыяце ТБМ, высылаюць выніковыя матэрыялы непасрэдна ў ТБМ. Пры гэтым у іх павінны быць звесткі па асноўнай дзейнасці калектыўнай сябрыны. У тым ліку, дадзеныя аб кіраўніцтве сябрыны (прозвішча, адрас), разліковы рахунак у банку, сума грашовых сродкаў, якія пералічваліся за ўвесь перыяд дзейнасці на рахунак ТБМ (пажадана асобна па кожнаму году). Вынікі конкурсу будуць падведзены да пятых угодкаў з дня заснавання ТБМ. Арганізацыі, асобныя актывісты, якія вызначацца як найбольш плённыя, будуць узнагароджаны грашовымі прэміямі, каштоўнымі падарункамі, іншымі сродкамі падзякі. Памеры прэмій, каштоўныя падарункі будуць вызначаны падчас падвядзення вынікаў. Лепшыя матэрыялы будуць надрукаваны ў газеце «Наша слова».**

**Звяртаемся да ўсіх сяброў Таварыства беларускай мовы з заклікам і просьбай прыняць самы актыўны ўдзел у конкурсе.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі»

М. В. БІЧ

# Беларусы: сацыяльна-эканамічнае становішча, грамадска-палітычнае жыццё
## (сярэдзіна XIX ст. — 1914 г.)

19 лютага 1861 г. Аляксандр II падпісаў Маніфест і «Палажэнні» аб вызваленні памешчыцкіх сялян ад прыгоннай залежнасці. Прыгонныя сяляне атрымалі, хоць і не адразу, асабістую волю і правы чалавека, фармальна не залежнага ад пана.

Паводле закона селянін павінен быў заплаціць памешчыку выкуп і за зямлю і за сваю свабоду. Выкуп апошняй быў замаскіраваны шляхам завышэння цаны на зямлю. 80 працэнтаў сумы памешчыкам плаціла дзяржава. Сяляне рабіліся яе даўжнікамі на 49 гадоў і павінны былі выплачваць не толькі суму доўгу, але і вялікія працэнты за пазыку. Выкупныя плацяжы спаганяліся да першай расійскай рэвалюцыі.

Каб памешчыкі не засталіся адразу пасля рэформы без рабочых рук, «Палажэннямі» прадугледжвалася, што выкупіць свае надзелы сяляне не маглі раней, чым праз 9 гадоў. Увесь гэты час яны лічыліся «часоваабавязанымі» і павінны былі за карыстанне надзелам, як і раней, адбываць паншчыну або плаціць памешчыку чынш.

Умовы «вызвалення» выклікалі масавае абурэнне сялян. У 1861 г. на Беларусі ўлічаны 379 выступленняў, звязаных з рэформай, што ў дзевяць разоў перавысіла паказчык папярэдняга года. Аб вастрыні і размаху барацьбы сведчыць тое, што 125 з іх былі падаўлены войскамі і паліцыяй.

Паўстанне 1863—1864 гг. прымусіла царскі ўрад прыняць пэўныя захады з мэтай адцягнуць ад удзелу ў ім беларускіх сялян. Былі скасаваны часоваабавязаныя адносіны, сяляне пераводзіліся ў разрад уласнікаў зямлі, выкупныя плацяжы зніжаліся на 20 працэнтаў. Сялянам, абеззямеленым памешчыкамі ў 1857—1861 гг., вярталіся ранейшыя надзелы.

У 1875 г. на Беларусі пачалася рэформа гарадскога самакіравання (на 5 гадоў пазней, чым у Расіі). Яна засноўвалася на буржуазным прынцыпе ўсесаслоўных выбараў органаў кіравання ў гарадах пры адпаведным маёмасным цэнзе.

Буржуазны накірунак рэформ 60—70-х гадоў, за выключэннем адмены прыгоннага права, на Беларусі быў больш абмежаваны, чым у цэнтральнай Расіі, паколькі сутнасць палітыкі царызму ў заходніх губернях вызначалі вялікадзяржаўныя, каланізатарскія задачы. З мэтай русіфікацыі краю тут быў фактычна ўстаноўлены рэжым выключных законаў.

Вытворчыя адносіны ў парэформеннай беларускай вёсцы вызначаліся сялянскім малазямеллем, высокімі выкупнымі плацяжамі, шматлікімі дзяржаўнымі, земскімі і мірскімі падаткамі і павіннасцямі, якія вымушалі сялян на кабальных умовах арандаваць памешчыцкія палі, пашы і сенажаці, браць у паноў натуральныя і грашовыя пазыкі.

У 60—70-я гады важнай таварнай галіной у памешчыцкай і сялянскай гаспадарках заставалася вытворчасць зерня. Аднак з'яўленне ў 80-я гады на рынках Заходняй Еўропы масы таннага высакаякаснага хлеба з Паўночнай Амерыкі, Аргенціны, Аўстраліі рэзка знізіла цэны на зерне і прывяло сельскую гаспадарку Беларусі да глыбокага крызісу. Выйсце з яго забяспечыла спецыялізацыя мясцовай сельскай гаспадаркі на жывёлагадоўлі, найперш малочнай. Колькасць буйной рагатай жывёлы ў памешчыцкіх гаспадарках у 1883—1900 гг. вырасла прыблізна ў два разы. З'явіліся высокапрадукцыйныя пароды кароў, у маёнтках адкрываліся сыраварні і масларобчыя заводы. Другім важным накірункам спецыялізацыі памешчыцкай гаспадаркі было вінакурства. Мянялася структура пасяўной плошчы. Пасевы кармавых культур у 80—90-я гады павялічыліся ў сем разоў. Вытворчасць зерня прызначалася пераважна на корм для жывёлы і вінакурства. Паляпшалася апрацоўка зямлі, і павышалася ўраджайнасць. На поўначы Беларусі важным накірункам спецыялізацыі сельскай гаспадаркі з'яўлялася льнаводства, а ў Магілёўскай губерні — вырошчванне канапель. Як рынкавая галіна на Беларусі паўсюдна развівалася свінагадоўля.

Патрэбам развіцця капіталістычнага рынку ў найбольшай ступені адпавядаў чыгуначны транспарт. Пачатак чыгуначнай сетцы Беларусі паклала Пецярбургска-Варшаўская магістраль, якая прайшла праз Гродна. У 1866 г. дабавіліся 245 вёрст Рыга-Арлоўскай чыгункі (участак Дзвінск—Полацк—Віцебск). У 70-я гады былі пабудаваны Маскоўска-Брэсцкая і Лібава-Роменская чыгункі, якія перасекліся ў Менску. У 80-я гады пачалі дзейнічаць Палескія чыгункі, а з 1902 .— Пецярбургска-Адэская магістраль, якая прайшла праз Віцебск, Оршу, Магілёў, Жлобін. У выніку Беларусь атрымала чыгуначную сувязь з важнымі індустрыяльнымі раёнамі — Цэнтральна-прамысловым (Масква), Паўночна-заходнім (Пецярбург, Рыга), Паўднёва-Украінскім (Данбас), Польскім.

Пад уздзеяннем усерасійскага рынку ў 60—80-я гады XIX ст. канчаткова вызначылася спецыялізацыя беларускай прамысловасці на апрацоўцы прадукцыі мясцовай сельскай гаспадаркі, лясной і мінеральнай сыравіны.

Развіццё прамысловасці і чыгуначнай сеткі дало штуршок росту гарадоў. Колькасць гарадскога насельніцтва на Беларусі ў 1863—1897 гг. павялічылася з 330 тыс. да 648 тыс., аднак удзельная вага яго практычна не змянілася. Па колькасці жыхароў найбуйнейшымі гарадамі ў канцы XIX ст. з'яўляліся Менск (91 тыс.), Віцебск (66 тыс.), Гродна (47 тыс.), Брэст (46,6 тыс.), Магілёў (43 тыс.), Гомель (37 тыс.), Бабруйск (34 тыс.), Пінск (28 тыс.). Перш за ўсё раслі гарады, якія сталі чыгуначнымі вузламі або станцыямі. Насельніцтва мястэчак за 40 паслярэформенных гадоў вырасла з 500 тысяч да 679 тысяч чалавек.

У 60-я гады XIX ст. пераважная большасць памешчыкаў на Беларусі лічыла сябе палякамі, хоць па паходжанні яны былі беларусамі. У 1864 г. у Віленскай, Віцебскай, Менскай і Гродзенскай губернях палякам належала 10797 маёнткаў плошчай каля 7,5 млн. дзесяцін, а не «польскім» памешчыкам (у пераважнай большасці рускім) — 1458 маёнткаў, плошча якіх складала каля 1,8 млн. дзесяцін. У сувязі з паўстаннем 1863—1864 гг. шмат маёнткаў тутэйшых памешчыкаў было секвестравана. Іх на вельмі льготных умовах прадалі рускім дваранам і чыноўнікам.

На рубяжы XIX—XX стст. у прамысловасці Беларусі працавала 237 тыс. рабочых. На чыгунках колькасць рабочых дасягала 25 тыс. чалавек. Агульная колькасць пастаянных наёмных рабочых, у тым ліку сельскагаспадарчых, перавышала 460 тысяч. Сярод гарадскіх рабочых пераважалі яўрэі, асабліва ў сферы дробнакапіталістычнай і рамеснай прамысловасці, гандлю і бытавога абслугоўвання. У буйной прамысловасці і на чыгунках былі заняты ў асноўным рабочыя-хрысціяне, у большасці беларусы. Сельскагаспадарчыя рабочыя ў пераважнай масе таксама складаліся з беларусаў.

Гандлёва-прамысловая буржуазія ў краі была ў асноўным прадстаўлена яўрэйскімі купцамі і прамыслоўцамі. Па перапісе насельніцтва 1897 г., 85 працэнтаў купцоў пяці заходніх губерняў адносіліся да яўрэяў, 10,7 — да рускіх і толькі 1,7 працэнта былі беларусамі (па роднай мове).

Яўрэйскае насельніцтва, як і ў першай палове XIX ст., засяроджвалася ў гарадах і мястэчках. У 1882 г. Аляксандр III падпісаў закон, які забараняў яўрэям у «мяжы аселасці» купляць і арандаваць зямлю і ўвогуле жыць за межамі гарадоў і мястэчак. У 1897 г. у гарадах Беларусі яўрэі складалі ў сярэднім каля палавіны жыхароў, а ва ўсім насельніцтве краю — 13,8 працэнта. Перанаселенасць беларускіх гарадоў яўрэямі істотна стрымлівала, а часам і выключала прыток туды мясцовага сельскага насельніцтва. Асноўная маса «лішняга» на сваёй радзіме беларускага сялянства вымушана была шукаць заробкаў у іншых раёнах Расіі і за яе межамі. У 1897 г. у Пецярбургу жыло 66,5 тыс. беларусаў, у Маскве — 16 тыс., у Адэсе — 17 тыс. і г.д.

Беларуская нацыянальная буржуазія ў другой палове XIX ст. знаходзілася яшчэ ў пачатковай стадыі станаўлення. Яна ўяўляла сабой найбольш слабую праслойку мясцовай шматнацыянальнай буржуазіі. Асноўныя капіталы краю — зямельны, прамысловы, гандлёвы, банкаўскі — знаходзіліся ва ўласнасці тутэйшых памешчыкаў, яўрэйскіх купцоў і прамыслоўцаў. Беларуская аграрная буржуазія, у пераважнай масе дробная, раскіданая па вясковай глухамані, расколатая па веравызнанні на праваслаўных і каталікоў, у значнай меры русіфікаваная і паланізаваная, нават у канцы XIX ст. не ўсведамляла яшчэ свайго нацыянальнага адзінства. Яна абыякава ставілася да барацьбы за раўнапраўе сваёй мовы і культуры.

У пачатку XX ст. яшчэ больш яскрава вызначылася спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі на вытворчасці малака, малочных прадуктаў і мяса. У памешчыкаў і сялян было 2,8 млн. галоў буйной рагатай жывёлы, з іх каля паловы складалі дойныя каровы. У сувязі з гэтым плошча травасеяння ў 1901—1913 гг. вырасла ў два разы. Валавы збор бульбы — асноўнай кармавой і тэхнічнай культуры — павялічыўся на трэць. Паскорыўся пераход ад трохпольнай да шматпольнай сістэмы земляробства, што садзейнічала росту ўраджайнасці. Пашыралася прамысловая вытворчасць масла і сыру. У гэты час на Беларусі налічвалася каля 300 масларобчых і сыраварных заводаў. У 1912 г. у іншыя раёны Расіі і за мяжу было вывезена 395 тыс. пудоў (пуд складае прыкладна 16 кг) малочных прадуктаў.

З 1907 года на Беларусі пачалі ажыццяўляцца рэформы, ініцыятарам якіх з'яўляўся міністр унутраных спраў П. А. Сталыпін. Яны прадугледжвалі ліквідацыю абшчыннага землеўладання (у беларускім рэгіёне захоўвалася пераважна ў Магілёўскай і Віцебскай губернях), насаджэнне хутарскіх гаспадарак, дзе прыватнаўласніцкія землі размяшчаліся кампактна ў выглядзе асобных адрубаў, перасяленне беззямельных і малазямельных сялян у Сібір і іншыя аддаленыя мясціны. Стварэнне хутарскіх гаспадарак і перасяленчая палітыка фінансаваліся сялянскім пазямельным банкам, але ўмовы пазыкі былі разлічаны толькі на багатых і заможных сялян. За 1907—1915 гады ў беларускіх губернях банк прадаў хутаранам каля 250 тысяч дзесяцін зямлі. За гэты ж перыяд з Беларусі перасяляліся звыш 335 тысяч чалавек. Праўда, падняць гаспадарку на новых месцах змаглі далёка не ўсе, таму кожны дзесяты перасяленец быў вымушаны вярнуцца назад. Сталыпінскія рэформы, як і па ўсёй краіне, садзейнічалі развіццю моцных сялянскіх гаспадарак, але набалелых і вострых праблем тагачаснай вёскі (галоўная — малазямелле) яны, натуральна, вырашыць не змаглі.

Развіццё капіталістычных адносін суправаджалася не толькі ростам прадукцыйнасці працы ў сельскай гаспадарцы, але і ўзмацненнем сацыяльнай дыферэнцыяцыі беларускай вёскі. Павялічыліся праслойкі вясковай беднаты і буржуазіі, змяншалася колькасць серадняцкіх двароў. Напярэдадні Першай сусветнай вайны бедната складала каля 70 працэнтаў, сяляне-сераднякі — 19—20 працэнтаў і заможныя сяляне — 10—11 працэнтаў усяго сялянства.

У 1900—1908 гг. прамысловасць Беларусі развівалася ва ўмовах крызісу і дэпрэсіі. У гэты час істотна скарацілася колькасць дробных і павялічылася колькасць адносна буйных прадпрыемстваў. З 1909 г. пачаўся новы прамысловы ўздым. За пяць гадоў фабрычна-заводская прамысловасць павялічыла выпуск прадукцыі на 67,5 працэнта. Ажывілася таксама дробнакапіталістычная і саматужна-рамесная вытворчасць, доля якой ў валавой прадукцыі ў 1913 г. складала звыш палавіны.

У 1900—1913 гг. буйная прамысловасць найбольш хутка развівалася ў Менску і Віцебску, дзе колькасць рабочых на гэты час павялічылася ўдвая. Новыя адносна буйныя прадпрыемствы з'явіліся ў Гродне, Пінску, Гомелі і іншых гарадах. Аднак у цэлым для Беларусі і ў пачатку XX ст. было характэрна пераважнае размяшчэнне прамысловасці ў сельскай мясцовасці — бліжэй да крыніц сыравіны і больш таннай рабочай сілы. У ходзе падаўлення паўстання 1863—1864 г. М. М. Мураўёвым, генерал-губернатарам Беларуска-Літоўскіх губерняў, былі сфармуляваны задачы па татальнай русіфікацыі краю. Адмаўляючы, як і раней, існаванне беларускага этнасу, яго мовы і культуры, царскі ўрад і мясцовыя адміністратары ў 60-я гады рэзка ўзмацнілі ідэалагічную апрацоўку беларускага насельніцтва праз школу, царкву, друк, дзяржаўныя ўстановы з мэтай поўнай уніфікацыі Беларусі з Цэнтральнай Расіяй, выкаранення гістарычнай памяці, нацыянальнай свядомасці, усіх культурна-этнічных асаблівасцей беларусаў. Адпаведным чынам пісалася гісторыя краю. Не давяраючы мясцовым настаўнікам і чыноўнікам, Мураўёў амаль цалкам замяніў іх выхадцамі з цэнтральных губерняў, прывабіўшы павышэннем акладаў і перспектывай хуткай кар'еры. Вядома, сюды прыбывалі далёка не лепшыя кадры.

З 1863 г. па 1889 г. у межах Расійскай імперыі не з'явілася ніводнага мастацкага твора на беларускай мове. Царская цэнзура ў спробах друкавання беларускіх твораў бачыла пагрозу адзінству рускай літаратурнай мовы і да 1905 г. такія публікацыі забараняла. З 1859 г. забаранялася друкаванне твораў на беларускай мове і лацінскім шрыфтам. Ліквідаваўшы ў 1864 г. адзіную на Беларусі вышэйшую школу — Горы-Горацкі земляробчы інстытут, царызм да канца свайго існавання зацята адхіляў усе хадайніцтвы аб заснаванні ў беларускіх губернях вышэйшай навучальнай установы. Адсутнасць такіх установаў вельмі адмоўна адбівалася на фарміраванні беларускай інтэлігенцыі, развіцці грамадска-культурнага і палітычнага руху.

Такім чынам, на Беларусі ў 60—90-я гады быў усталяваны каланіяльны па сваім характары рэжым выключных законаў. Ён істотна тармазіў сацыяльна-эканамічнае, грамадска-палітычнае і культурнае развіццё краю, дэфармаваў працэсы міграцыі сельскага і, адпаведна, нацыянальны склад гарадскога насельніцтва, стрымліваў фарміраванне беларускай нацыі.

**Матэрыял да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

# Вучымся!

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

Мікалай КРЫЎКО

ПАДГАЛОСАК (у спевах — голас больш высокага тону, які дапамагае асноўнаму) *Песня пачынаецца запевам, потым уступае хор у суправаджэнні падгалоска* («Беларусь»), ПАДВОДКА.

ПАДГЛЯДАЦЬ і ПАДГЛЯДВАЦЬ (употай выглядаць каго-н, што-н.) [*Аўгіня*] *хвалявалася, як чалавек, што змушан падглядаць спотайку, рызыкуючы быць злоўленым* (Колас). *Умешвацца без запрашэння ў чужую гаворку нягожа. Усё роўна што падглядваць употай* (Паўлаў), ПАДЦІКОЎВАЦЬ *Ёй здавалася, што за кожным дрэвам яе падцікоўвае небяспека, ці то воўк, ці то які яшчэ лясны звер* (Сабаленка), ЦІКАВАЦЬ [*Пастушкі*] *пачалі з-за кустоў цікаваць, што чалавек будзе рабіць далей* (Крапіва). *Бывае, цэлымі гадзінамі цікуе* [*мядзведзь*] *за чалавекам у лесе, ходзіць за ім услед, падглядвае, а не зачэпіць* (Ляўданскі).— Зак.: **Падгле́дзець, падглядзе́ць, падцікава́ць.**

ПАДДОПЫТНЫ (які знаходзіцца пад следствам) *Маёр прывык чуць розныя паказанні, але прызнанне Данілкі было такое нечаканае для следства, што Мядзьведзеў не вытрымаў і здзіўлена паглядзеў на паддопытнага* (Асіпенка), ПАДСЛЕДЧЫ *Падследчы насярожана павярнуў галаву да сведкі* (Шамякін), ПАДСЛЕДНЫ *Напрактыкаваныя дэфензіўшчыкі адразу адчулі, што падследны страціў прытомнасць* (Машара).

ПАД'ЁМНІК (механізм, пры дапамозе якога падымаюць цяжар і пасажыраў) *Матор напружана ўзвыў, вал пад'ёмніка закруціўся, кузаў прыўзняўся* (Вышынскі), ПАД'ЁМ *Руднічны пад'ём.*

ПАД'ЁМНЫ (які служыць для пад'ёму чаго-н). *Тэадаліт мае тры пад'ёмныя вінты — пры дапамозе іх прыводзяць лімб у гарызантальнае становішча* (Пташнікаў), ПАДЫМАЛЬНЫ *Падымальная машына.*

ПАДЗЁНШЧЫК (рабочы, які выконвае падзённую работу) *Каля запрудаў, за грэбляю, даўгінаўскія падзёншчыкі, нягледзячы на хлюпату, абганялі сошкамі бульбу* (Бажко), ПАДЗЁННІК *Кінуў Арцём парабкоўства.., падзённікам зрабіўся* (Бядуля).

ПАДКАЗ (тое, што падказана) *Даўнія здымкі гартаю, што пацямнелі ад часу... Я кожны тут твар пазнаю без подпісу, без падказу* (Лось), ПАДКАЗКА *На гэты раз. Рыгорка адразу пачуў падказку, радасна ўскінуў галаву* (Краўчанка).

ПАДКІНУЦЬ (кінуць уверх [*Люба*] *хапіла на рукі сына, падкінула яго ўгару, паставіла назад на падлогу і ўзялася грэць ваду* (Чорны), ПАДШПУРНУЦЬ разм.— Незак.: **Падкіда́ць, падкідваць, падшпу́рваць.**

ПАДКЛАДКА (матэрыял, які прышываецца з унутранага боку адзення) *Павел сядзеў на нізкім табурэціку і, схіліўшы галаву, разглядаў кляймо фабрыкі на падкладцы капелюша* (Шамякін), ПАДШЭЎКА *Полы... вопраткі абвісалі ўніз, з-пад іх спрабавала абвісаць падшэўка* (Чорны), ПАДШЫЎКА [*Янук*] *здымае сваю шапку,.. адкладвае цыратовую падшыўку і дастае адтуль згорнуты ў некалькі столак лісток паперы* (Кулакоўскі), ПОДБІЎКА *Подбіўка пінжака*, ПАДБІЎКА разм. *Шапка ў мяне лёгкая — без казырка і падбіўкі* (Бажко).

ПАДЛА (труп жывёліны, а таксама мяса здохлай жывёліны) *Калі звер галодны дарвецца да падлы — да яго падыходзяць бліжэй: не чуе, заняўшыся* (Пташнікаў), МЯРЦВЯЧЫНА [*Алесь:*]*— Наш Міхась казаў, што ракі мярцвячыну ядуць* (Ваданосаў), ЗДЫХЛЯЦІНА размоўнае *Закапаць здыхляціну.*

ПАДЛАЖЫЦЬ (таемна, неўзаметку палажыць куды-н. з якой-н. мэтай) [*Якаў:*] *— Ну дык я табе скажу: каб зрабіць чалавека злодзеем, трэба падлажыць яму нешта крадзенае* (Чарнышэвіч), ПАДКЛАСЦІ *Нездарма ж і батальённы камісар, які нядаўна прыйшоў у групу, і нават Саўчанка не-не ды неўпрыкмет падкладуць яму якую-небудзь брашурку або кніжку; чытай, Чыжык* (Лупсякоў), ПАДКІНУЦЬ *Падкінуць лістоўку*, ПАДСУНУЦЬ — *Відаць, сапраўды «бібулу» падсунулі гэтаму дурню тыя два жулікі* (Машара).

— Незакончанае трыванне: **Падклада́ць, падкла́дваць, падкіда́ць, падкідваць, падсо́ўваць.**

ПАДЛЕСАК (кусты і маладыя дрэвы ў лесе, якія не дасягнулі сваімі кронамі асноўнага ляснога масіву) *Лес быў густы. Паміж старых соснаў і елак пракідваліся маладыя дубкі і бярозкі, а зусім унізе браўся падлесак* (Сабаленка), ПАДЛЕССЕ *Паставіўшы далонь брылем над вачамі, пачаў угледацца ў падлессе* (М. Ткачоў), МАЛАДНЯК *Дрэвы растуць, імкнуцца да сонца, дасягаюць нябачных памераў, старэюць, падаюць і трухлеюць, уступаючы сваё месца маладняку* (В. Вольскі), ПАДСАДА *У астатнія ж дні не вылазіла* [*маці*] *з лесу: то збірала грыбы і ягады, то зарабляла капейку — паліла лаўжы, акопвала на дзялянках падсаду* (Сачанка), ПАДСАДКА [*Вялікі роў*] *густа зарос лесам і маладой падсадкай, кустамі і травой* (Асіпенка), ПАДРОСТ (маладняк, зараснік маладых дрэў) *За разлогаю пакінутага пры высечцы падросту адкрылася роўненькая чарга стромых сосенак* (Карамазаў).

ПАДЛІЗВАЦЦА разм. (да каго і без дапасавання; ліслівасцю, дагаджаннем дабівацца чыёй-н. прыхільнасці) *Трапіўшы ў каталажку, Аляксей зразумеў, што гэта не жарты і рашыў каяцца ў сваіх грахах. Падлізваўся да астрожнай адміністрацыі, хадзіў на лапках перад надзорцамі* (Машара), ПАДМАЗВАЦЦА разм. *Стараўся быць строгім камандзірам і ў той жа час лез жыўцом у душу, падмазваўся да хлопцаў* (Лынькоў), ПАДЛАШЧВАЦЦА разм. *Яна* [*цешча*] *не надта падлашчвалася да Міхася* (Б. Стральцоў), ПАДЛАГОДЖВАЦЦА разм. *Падлагоджвацца да пакрыўджанага*, ПАДЛАБУНЬВАЦЦА разм.— *Храбрэй цябе, дзеду, няма, мусіць, на ўсім свеце? — падлабуньваецца Міколка пад дзеда* (Лынькоў), ПАДЛАДЖВАЦЦА *Імгненна ўзнікае непрыхільнасць да Швальбе: «Падладжваўся, выходзіць, спецыяльна, каб выведаць, зрабіць даносчыкам...»* (Навуменка), ПАДДОБРЫВАЦЦА *Максім прывык, што да яго звярталіся з просьбамі, яго хвалілі, да яго паддобрываліся* (Кудравец), ПРЫДОБРЫВАЦЦА *Расійскі ўрад усяляк да Францыі прыдобрываецца, марыць аб франка-рускім ваенным саюзе!* (Мехаў), ПАД'ЯЗДЖАЦЬ разм. *Каб ты не махляваў, не крывіў душой, не пад'язджаў лісіцай да начальства, «Новы свет» меў бы тое, што і «Барацьбіт»* (Хадкевіч), ПАДКОЧВАЦЦА разм. *Хацеў падысці да хлопца, але перадумаў; мастакі такія людзі, што могуць падумаць: ён, Гаранскі, падкочваецца да хлопца* (Сабаленка).— Зак.: **Падлі́зацца, падма́зацца, падла́шчыцца, падлаго́дзіцца, падлабу́ніцца, падла́дзіцца, паддо́брыцца, пад'ехаць, падкаціцца.**

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

1. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальных слоў, пры звычайнай інтанацыі аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Вецер свішча так, як звер* (Якуб Колас). *Гэтакіх, як ён, у вёсцы было многа* (Кузьма Чорны). *Сёння было гэтак жа горача, як учора* (Ц. Гартны).

2. Калі параўнальныя звароты адносяцца не да ўказальных, а да іншых слоў у сказе, то такія звароты ў большасці выпадкаў аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *У вёсцы ціха, як у лесе* (Змітрок Бядуля). *Мае, што снег, збялелі валасы* (А. Астрэйка). *Збоку вербачкі крывыя, бы кабецінкі старыя, нуднай кучкаю стаяць* (Якуб Колас).

**Коска не ставіцца:**

калі параўнальныя звароты з'яўляюцца ўстойлівымі або непадзельнымі па сэнсу выразамі: *Піліпчык як дуж кінуўся следам за Міронам* (М. Лынькоў). *На двары ўжо як мае быць змеркла* (Кузьма Чорны). *Хлопчыкі беглі што ёсць сілы* (М. Гамолка). *Дождж паліўся як з вядра* (Якуб Колас). *Усё відаць як на далоні* (М. Лынькоў);

калі параўнальныя звароты цесна звязаны з паясняемым словам: *Дарога доўгая як памяць* (М. Калачынскі). *Валасы чорныя як сажа* (Кузьма Чорны);

калі параўнальныя звароты ўваходзяць у склад выказніка: *Паветра нібы расплавілася ад гарачыні* (І. Навуменка). *Хата была як цацка* (А. Чарнышэвіч). *Усю ноч Ганна праляжала як нежывая* (І. Мележ);

калі параўнальныя звароты ўжываюцца ў ролі акалічнасці спосабу дзеяння, акалічнасці месца або дапаўнення: *Я ўпершыню сябе нібы дадому выпраўляю* (А. Куляшоў). *Хлапчукоў як віхрам здзьмула* (М. Лынькоў);

калі параўнальныя звароты ўжываюцца са значэннем «у якасці» або са значэннем тоеснасці: *Лапко прыглядаўся да работы як гаспадар* (Якуб Колас). *Цыбулька гаварыў як найлепшы прамоўца* (М. Гарэцкі). *Чмаруцьку ведалі ўсе як чалавека з фантазіяй* (М. Лынькоў);

калі словы **як, нібы, быццам** і інш. выконваюць ролю часціц з рознымі эмацыянальна-экспрэсіўнымі адценнямі: *Між дзяцей дачку са школы як прыемна сустракаць!* (П. Броўка). *Нібы ў сне стаіць сасняк* (Змітрок Бядуля). *Пры апошніх словах прамоўцы быццам ветрык прайшоў па зале* (Я. Брыль);

калі перад параўнальным зваротам стаяць часціцы **не (ні), амаль,** прыслоўе **зусім** і некаторыя размеркавальныя злучнікі: *Дзеда не бралі на працу ні як садоўніка, ні як пчаляра* (З. Бядуля). *Яны адчувалі сябе амаль як дарослыя людзі* (Якуб Колас). *Сонца прыгравала зусім як летам* (М. Паслядовіч). *Вочы дзяўчыны глядзелі не то як сарамліва, не то як вінавата* (А. Чарнышэвіч).

**Заўвага.** Калі параўнальныя звароты са спалучэннямі **амаль як, зусім як** маюць удакладняльнае значэнне, тады перад імі ставіцца коска, напрыклад: *У каморцы было холадна, амаль як на двары* (Т. Хадкевіч). *Гушчар быў цёмны, непраходны, зусім як у пушчы* (П. Пестрак).

3. У тых выпадках, калі параўнальныя звароты ўводзяцца ў структуру сказа спалучэннямі **больш як (не больш як), больш чым (не больш чым), менш як (не менш як), менш чым (не менш чым), не бліжэй як, не далей як, не часцей як, не радзей як, не іначай як, усё роўна як** і інш., коска пры іх не ставіцца: *Абоз расцягнуўся больш як на вярсту* (Якуб Колас). *Намацаў тут бацька не іначай як ментуза* (М. Лынькоў).

Але калі такія спалучэнні інтанацыйна і сэнсава чleняцца, то перад злучнікамі **як, чым** ставіцца коска: *Гасцей чакалі не раней, як праз гадзіну* (Якуб Колас). *Людзі сталі зваць яго не іначай, як каровіным мужыком* (К. Крапіва).

Коска ставіцца таксама тады, калі параўнанне суправаджаецца супастаўляльным адценнем: *Лес патрэбен людзям не меней, чым хлеб* (І. Навуменка). *Маці шкадавала Уладзіка болей, як мяне* (Б. Сачанка).

*(Працяг будзе).*

# ПЛАН

## НАВУЧАЛЬНЫХ ТЭЛЕПЕРАДАЧ НА КРАСАВІК 1994 ГОДА

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 80. | 31.03, 01.04 | 4 | мая радзіма | Беларусь у гады Другой сусветнай вайны |
| 81. | 4,5 | 6 | беларуская літаратура | А. Вярцінскі „Рэквіем па кожным чацвёртым" |
| 82. | 5,6 | 11 | беларуская літаратура | „Быў. Ёсць. Буду" /Уладзімір Караткевіч і яго творчасць/ |
| 83. | 7,8 | 6 | выяўленчае мастацтва | Народнае мастацтва Беларусі |
| 84. | 11,12 | 5 | гісторыя Беларусі | Мастацтва старажытных людзей на тэрыторыі Беларусі |
| 85. | 12,13 | 11 | беларуская літаратура | Старонкі незабыўнай даўніны /Уладзімір Караткевіч і яго раман „Каласы пад сярпом тваім"/ |
| 86. | 14,15 | 9 | беларуская літаратура | „Мілы кут маіх дзядоў" /па старонках паэмы Якуба Коласа „Новая зямля"/ |
| 87. | 18,19 | 9 | геаграфія Беларусі | Новыя формы гаспадаркі і новыя тыпы прадпрыемстваў і арганізацый |
| 88. | 19,20 | 11 | беларуская літаратура | Ніл Гілевіч і яго творчасць |
| 89. | 21,22 | 11 | беларуская літаратура | Вялікае слова праўды /сучасная беларуская паэзія/ |
| 90. | 25,26 | 7 | гісторыя Беларусі | Культура Беларусі ў XVII – XVIII ст ст. |
| 91 | 26,27 | 11 | беларуская літаратура | Гісторыка-герaічная тэма ў сучаснай беларускай літаратуры |
| 92. | 28,29 | 7 | беларуская літаратура | Урокі маленства /аповесць Янкі Брыля „Сірочы хлеб"/ |

 



# ЗАШЫФРАВАНА Ў ВЫСЛОЎЯХ

***Выйшаў у свет двухтомны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» — вынік шматгадовай працы доктара філалагічных навук, прафесара І. Я. Лепешава. Гэта першы найбольш поўны збор (каля 6 тыс.) фразеалагічных адзінак беларускай літаратурнай мовы.***

Тысячагадовая творчасць нашага народа, яго светапогляд, унутраны свет, эмоцыі, пачуцці, духоўная культура, рэакцыі на розныя праявы жыцця — усё гэта зашыфравана ў фразеалагізмах. Менавіта яны яскрава выяўляюць адметнасць народнага моўнага мыслення. Менавіта фразеалагізм, правільна і да месца ўжыты, надае мове непаўторную своеасаблівасць, адметную вобразнасць, трапнасць.

Зразумела неабходнасць вывучэння фразеалогіі для засваення мовы і павышэння моўнай культуры. Гэтым мэтам і служыць двухтомны тлумачальны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І. Я. Лепешава. (Апроч таго, ён бярэ на сябе функцыі іншых філалагічных слоўнікаў: акцэнталагічнага, арфаграфічнага, сінанімічнага, антанімічнага і г. д.) Аўтар грунтоўна распрацаваў граматычныя, семантычныя і стылістычныя характарыстыкі фразеалагічных адзінак.

Характарыстыка фразеалагізмаў падаецца праз паказ іх граматычных асаблівасцей, сінтаксічнай функцыі, граматычнай і лексічнай спалучальнасці са словам у сказе. У лаканічнай форме дакладна раскрываецца значэнне кожнай фразеалагічнай адзінкі. Дэталёва распрацавана сістэма іх стылістычнай характарыстыкі. Прыналежнасць таго ці іншага фразеалагізма да пэўнага стылю вызначаецца з улікам асаблівасці яго функцыянавання. Усе яны падзяляюцца на функцыянальна незамацаваныя (выкарыстоўваюцца ў двух-трох стылях) і на функцыянальна замацаваныя (за пэўным стылем: кніжныя, размоўныя, прастамоўныя...). Але і яны, у залежнасці ад маўленчай сітуацыі, набываюць пэўную экспрэсіўна-ацэначную афарбоўку, якая ў слоўніку пазначаецца адпаведнымі пастаяннымі паметамі-маркерамі (адабрэнне, неадабрэнне, жартаўлівасць, іранічнасць, пагардлівасць ды іншыя).

Перад І. Я. Лепешавым стаяла нялёгкая задача кадыфікацыі (унармавання) выразных сродкаў беларускай мовы, хоць іх збіранне і вывучэнне працягваецца ўжо каля двух стагоддзяў. Вырашэнне яе ўскладнялася яшчэ і тым, што наша фразеалогія (неаднародная паводле паказчыкаў) шчыльна звязана з разнавіднасцямі (дыялектнымі, літаратурнымі, кніжнымі) беларускай нацыянальнай мовы, на якія яна ўздзейнічае і сама зведвае іх уплыў. Гэты працэс асабліва актывізуецца цяпер у сувязі з шпаркімі тэмпамі дэмакратызацыі ўсіх сфер грамадства, што нярэдка прыводзіць да размывання межаў літаратурнай, дыялектнай і іншых складаючых беларускай нацыянальнай мовы. Моцна ўплывае на сучасны стан беларускай фразеалогіі і яе папярэдні стан, у прыватнасці яе дыялектнае мінулае, празмерны рост прастамоўя ў мастацкай літаратуры.

Такіх «народных» фразеалагізмаў з твораў мастацкай літаратуры ў слоўніку нямала. А паколькі межы паміж фразеалагізмамі асобных пластоў нацыянальнай мовы робяцца размытымі, цяжка бывае вылучыць крытэрыі іх вызначэння. Традыцыя, якая вызначала месца фразеалагізма ў пэўным моўным стылі, аказваецца нярэдка не толькі падмогай, але і тормазам, паколькі шмат якія фразеалагізмы ўжо не адпавядаюць сучасным нормам беларускай літаратурнай мовы. І калі залічэнне ў прастамоўе значнай колькасці лексем у сучаснай лексікаграфічнай практыцы ў асноўным не выклікае пярэчанняў, гэтага нельга сказаць аб фразеалагізмах. Не заўсёды бывае зразумелым, чаму, напрыклад, фразеалагізмы *браць на цугундар*, *браць на пушку*, *браць на арапа* (т. 1, с. 123, 125, 126) аўтар лічыць прастамоўнымі, а *браць на бога* (т. 1, с. 123) — размоўным, *лезці чорту ў зубы* (т. 1, с. 568) — размоўным, а *лезці смалой у вочы* (т. 1, с. 569) — прастамоўным.

Другой не менш складанай задачай, якая стаяла перад аўтарам, было размежаванне сінаніміі і варыянтнасці, што непасрэдна звязана з праблемай паасобнасці фразеалагічнай адзінкі, г. зн. яе адмежаванне (ва ўсіх яе мадыфікацыях і формах ужывання) ад іншых фразеалагічных адзінак, а таксама звядзенне яе розных формаў ужывання да адной. І тут І. Я. Лепешаў, нягледзячы на складанасць і заблытанасць гэтай праблемы, у пераважнай большасці выпадкаў застаецца на ўзроўні сучаснай фразеалагічнай тэорыі. Толькі распрацоўка асобных слоўнікавых артыкулаў можа выклікаць пярэчанне. Чаму, напрыклад, аўтар адносіць да фразеалагічных сінонімаў (а не да варыянтаў адной і той жа фразеалагічнай адзінкі) такія: *прыгожы пол* і *слабы пол* (т. 2, с. 197—198), *хадзіць па нітачцы* ***перад кім, у каго*** і *хадзіць па струнцы* ***перад кім, у каго*** (т. 2, с. 512), *з вераб'ёў (вераб'іны) нос* і *з камароў (камарыны) нос* (т. 2, с. 95), *пад адкрытым небам* і *пад голым небам* (т. 2, с. 85), *браць (узяць) на мушку* ***каго, што*** і *браць (узяць) на прыцэл* ***каго, што*** (т. 1, с. 124—125), *устаць з левай нагі* і *ўстаць не з той нагі* (т. 2, с. 500—501)?

Яшчэ большы разнабой выявіцца ў вызначэнні формы фразеалагізма пры параўнанні яго формы ў іншых слоўніках. Як сцвярджае І. Я. Лепешаў, *паміраць* або *памерці* можна *ад* або *са смеху* (т. 2, с. 148). «Беларуска-рускі слоўнік» (т. 1, Мн., 1988; т. 2, Мн., 1989) пад рэдакцыяй К. Крапівы лічыць, што *памерці* можна *са смеху* і *з рогату* (т. 2, с. 406). А вось З. Санько мяркуе, што *з рогату* можна *канчацца* («Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем». Мн., 1991. С. 137). Як сцвярджае Лепешаў, *ад смеху* можна *надрываць*, *надарваць*, *рваць*, *падрываць*, *парваць*, *пападрываць жываты* (т. 2, с. 69), а Крапіва — толькі *падарваць са смеху* і толькі *жывот* (т. 2, с. 484). Адны слоўнікі пагаджаюцца на тым, што можна *паехаць* толькі *са смеху*, другія — толькі *з рогату*. Мае рацыю Лепешаў, пацвярджаючы свае доказы цытацыяй, што *паехаць* можна і *ад смеху* і *са смеху*, і *ад рогату* і *з рогату*. А як быць з астатнімі фразеалагізмамі гэтага ж зместу? Відаць, згрупаваўшы блізкія паводле сэнсу словы-кампаненты вакол адзінага вобраза, можна вылучыць, напрыклад, такія сінонімы: *качацца (класціся, ездзіць, ехаць, паехаць, пакаціцца) са смеху (з рогату, ад смеху, ад рогату)*; *паміраць (уміраць, памерці, канчацца, лопнуць) са смеху (з рогату, ад смеху, ад рогату)*.

Чытач, хто набыў гэты слоўнік, жадае, каб ён змяшчаў у сабе ўсе фразеалагізмы нацыянальнай мовы. Але гэта зусім немагчыма, бо фразеалагічны склад беларускай мовы — некалькі дзесяткаў тысяч адзінак, і іх колькасць няспынна расце. Нават такі фундаментальны «Фразеологический словарь русского языка» пад рэдакцыяй А. І. Малаткова налічвае толькі крыху больш за 4000 слоўнікавых артыкулаў. Любы фразеалагічны, як і іншы, слоўнік літаратурнай мовы, якім бы ён ні быў, заўсёды абмежаваны ў сваім аб'ёме. Адной з прычын колькаснай неадпаведнасці паміж фразеалагічным складам мовы і ўласна слоўнікам з'яўляецца рухомасць межаў паміж фразеалогіяй літаратурнай мовы, дыялектаў і разнастайнымі відамі прастамоўя. Але кожны даведнік такога тыпу павінен змяшчаць у сабе прынамсі ядро і бліжэйшую перыферыю фразеалагічнага складу мовы, якія ў сукупнасці ўтвараюць уласна фразеалагічную сістэму. Таму, як здаецца, у слоўнік варта было б уключыць шырока ўжываемыя ў сучаснай беларускай агульнанароднай гутарковай мове фразеалагізмы. Сярод іх такія: *ад зубоў адскокваць; ані баліць ані свярбіць* ***каму;*** *слухаць вухам, а не брухам; даваць пад хвост каму; за адну мінуту; ідзі ты!; і доўбняй не заб'еш; ідзі ты к богу ў рай; на возе і пад возам; ні ў плот ні ў гарод; ні ў пень ні ў калоду; пень маляваны; пранцы не бяруць* ***каго;*** *ракам устаць; свае чужых ганяюць; свой вецер пад носам; сходзіць на клін; укусіла муха за вуха* ***каго;*** *хоць з пушкі страляй; хоць радзі; як у касцеле, так і ў пасцелі; як палена* (глухі); *як свечка* (стаяць); *як свечка* (згаснуць); *як свіння ў плоце* (пішчаць); *як у бочку ліць; як у рэшаце вада; хапацца за бакі; душу весяліць; колькі душы патрэбна; аддаць жыццё* ***за каго, за што;*** *не даваць жыцця* ***каму;*** *дзеці плачуць* ***у каго;*** *ад дзядоў; мець за дурня* ***каго;*** *рабіць дурня* ***з каго;*** *наставіць на дарогу* ***каго;*** *узяць моду; вывесці моду; заваяваць сэрца* ***каго, чыё;*** *раскрыць сэрца* ***перад кім;*** *растапіць сэрца* ***чыё;*** *сэрца ачарсцвела* ***чыё, у каго;*** *цешыць сэрца (душу); сэрца зашчымела* ***ў каго;*** *сэрца ляжыць* ***да каго-чаго;*** *сэрца млее; чуе сэрца; адарваць вушы* ***каму;*** *затыкаць вушы; да вушэй* (чырванець); *аж пяты (пяткі) брызджаць (забразджаць); ісці па слядах* ***каго, чыіх;*** *як стада бараноў*. Большасць з прыведзеных тут фразеалагізмаў належаць да размоўнага стылю. Яны безумоўна павінны быць больш поўна пададзены ў слоўніку, бо, як вядома, мы гаворым звычайна не так, як пішам. Што тычыцца прастамоўных, груба-прастамоўных, лаянкавых фразеалагізмаў, то яны патрабуюць адбору не толькі па пурыстычных меркаваннях, а з прычыны адзінства той самай літаратурнай мовы, якая складае аснову сучаснага тлумачальнага слоўніка.

Клапоцячыся пра адзінства і цэласнасць мовы, аўтар не парушыў гэтай непадзельнасці коштам неправамернага пашырэння фразеалагічнага складу якога-небудзь аднаго са стыляў або сферы ўжывання. Праца І. Я. Лепешава пабудавана пераважна на матэрыяле мастацкіх твораў, якія з'яўляецца галоўнай крыніцай для добрага слоўніка. У ім захавана сіметрыя стыляў і ў дастатковай ступені паказана, як рознымі сродкамі выражаюць свае думкі і пачуцці людзі, якія гавораць на беларускай мове. Варты пахвалы і рэдактары слоўніка І. У. Саламевіч і І. П. Хаўратовіч, якія рыхтавалі рукапіс да друку.

**Анатоль АКСАМІТАЎ.**

---

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

## ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ

·I·

Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі сумесна з вытворча-камерцыйнай фірмай «Арты-Фэкс» рыхтуюць да выдания «Вялікі гістарычны атлас Беларусі». Гэты фундаментальны картаграфічны твор у 5-ці тамах плануецца да выхаду ў 1995—1997 гадах.

Галоўнай навуковай і асветніцкай мэтай атласа з'яўляецца стварэнне шырокай картаграфічнай панарамы тысячагадовага шляху нашай Радзімы — Беларусі. Падобна дзяржаўным сімвалам — гербу, сцягу і гімну — ён павінен стаць адным з фактараў, што пацвярджае наш суверэнітэт, нашу адметнасць, наша дастойнае месца сярод еўрапейскіх народаў.

Гістарычны атлас — класічнае суправаджэнне пры вывучэнні нашага мінулага. Гэта багатая крыніца разнастайнай інфармацыі аб прыродным асяроддзі, гаспадарчым развіцці, палітычных падзеях і духоўным жыцці на беларускіх землях. Упершыню будзе прадстаўлены працэс фарміравання тэрыторыі Беларусі, яе асобных адміністрацыйных адзінак у буйным маштабе.

Выкарыстанне разнастайных дадзеных, рукапісных і друкаваных дакументаў, старажытных картаў дазволіць прадставіць практычна ўсе існуючыя ці існаваўшыя населеныя пункты нашай краіны, працэсы асваення тэрыторыі і іншыя сацыяльна-эканамічныя з'явы.

Кожны том «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі» будзе складацца з уступу і папярэдніх тлумачэнняў, пераліку і кароткай характарыстыкі крыніц, прадстаўлення прыроднага асяроддзя, адміністрацыйнага падзелу, размяшчэння і гаспадарчай дзейнасці насельніцтва, камунікацый, індэкса населеных пунктаў і, галоўнае, спецыяльна распрацаваных картаў у розных маштабах, планаў і схемаў.

Дастаткова вялікія памеры атласа (41×29 см) дазволяць стварыць карты, насычаныя самай разнастайнай інфармацыяй. Каларыстыка і якасць друку будуць адпавядаць нормам «Еўрастандарту».

---

*Хачу ведаць*

## *Шаноўная рэдакцыя!*

З'яўляюся пастаянным чытачом і прыхільнікам Вашай газеты з моманту яе заснавання. Заўсёды з вялікай цікавасцю знаёмлюся з матэрыяламі, якія асвятляюць гісторыю развіцця беларускай мовы і сённяшнія захады па яе выратаванні. Лічу асабліва актуальнымі тыя артыкулы, у якіх даецца тлумачэнне норм беларускай граматыкі. Падобная практыка на старонках «Нашага слова» павінна працягвацца і пашырацца.

Хацелася б, напрыклад, даведацца, ці маюцца нейкія адрозненні паміж словамі *ліст* і *пісьмо*, *напрамак* і *накірунак*, *вымагаць* і *патрабаваць*, *паважаны* і *шаноўны*... Пералік слоў можна доўжыць.

Загадзя дзякую Вам і жадаю поспехаў на ніве нацыянальна-культурнага адраджэння.

З павагай **С. У. ВЕЧАР**

***Адказвае старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, кандыдат філалагічных навук Мікалай Крыўко.***

**Усе згаданыя пары слоў — сінонімы. Прыкладам, *напрамак, кірунак.* Абодва яны жывыя словы, сустракаюцца паўсюдна ў гаворках. *Кірунак* — пераважна на беларуска-польскім моўным памежжы, бо гэта, верагодна, даўняе пазычанне з польскай мовы. Што да слова *накірунак,* то яно ўвайшло ў нашу мову нядаўна. Гэта — вынік кантамінацыі слоў *напрамак* і *кірунак,* дзе ад першага ўзялі прыстаўку *на-,* а ад другога — усю аснову *кірунак.* (Кантамінацыя — калі слова ствараецца, часта спецыяльна, з частак двух розных слоў.)**

 




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

**Выдатны паэт Бельгіі, адзін з самых значных прадстаўнікоў сімвалізму Эміль Вэрхарн (1855—1916) здолеў знайсці свае сродкі, кранаючы глыбінныя струны чалавечае душы...**

*Эміль ВЭРХАРН*

## Няўлоўнае

**Каб жа мне ўбачыць квет, безабаронна-кволы —**
**Як гойдаецца ён вунь на канцы сцябла —**
**Як уначы дрыжыць, безабаронна-кволы —**
**Ды ўгледзець раптам бляск зіхоткага святла,**
**Ў якім, бы дыямент, блішчыць і застывае**
**Малая жамяра на промні залатым —**
**Ды ўбачыць карабель, што хутка адплывае,**
**А ўсё яшчэ стаіць пры беразе пустым.**
**Фламандцы-маракі да адплыцця гатовы:**
**Выцягваюць з вады катвігі-якары,**
**Цяжар сваіх турбот у час той вечаровы**
**На выпадак, на лёс усклаўшы да пары.**
**Каб хваляваўца мне: што як зляціць імкліва**
**Кудысьці жамяра або ўпадзе той квет —**
**Ці трапіць карабель у шторм, у вір бурлівы —**
**І пахавальны звон запоўніць цэлы свет...**
**Яны гавораць шмат, твае прыгадкі-мары,**
**Пра жамяру ды квет, ды карабель між хваль...**
**Яны лунаюць тут, нібы пад небам хмары:**
**Ў іх золак залаты, і смутак мой, і жаль.**

## Пабожнае

**Ноч зімняя пацір да неба ўзносіць.**

**І ўзношу ў змроку сэрца я сваё начное,**
**О Госпадзе! ў бясконцыя Твае прасторы,**
**А ўсё-ткі ведаю: не здарыцца такое,**
**Каб само сэрца сцішылася ў горы.**
**Я знаю: маніш Ты — й майго не бачыш твару**
**І руху губ, і як укленчыў я маркотна...**
**Не спадзяюся на спагаду я — ды мару,**
**Адзін ва ўсім Сусвеце, гэтак вось самотна.**
**Дай веры маім трызненням-літанням:**
**Мне трэба выліць іх перад Тваім маўчаннем.**

**Ноч зімняя пацір да неба ўзносіць.**

*Пераклад з французскай*
*Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*



ВЫСТАВЫ

# Вабіць рукатворная прыгажосць

Наведвальнікі першай Чэрвеньскай раённай выставы народных умельцаў і мастакоў апынуліся ў свеце нябачанай прыгажосці. Кожны экспанат — арыгінальны, па-свойму цікавы і непаўторны. Колерамі вясёлкі вабяць посцілкі і навалачкі, сняжынкамі бялеюць абрусы, ручнікі, прывезеныя з Клінка, Іваніч, Чарнаградзі, Іваніцкай Слабады, з іншых блізкіх і далёкіх вёсак. Усе яны ўпрыгожылі залу раённага краязнаўчага музея рознакаляровымі мудрагелістымі ўзорамі. Многія экспанаты вытканы і вышыты людзьмі, якіх даўно няма сярод нас. Але народныя майстры пакінулі сваім дзецям, унукам, усім нам цудоўную народную спадчыну.

А вось Таццяне Бандарык, Марыі Ладуцька з Іваніч, Соф'і Карнач з Клінка, Соф'і Краснагір, Валянціне Ганчарык з Чэрвеня, многім іншым народным умельцам не было патрэбы адчыняць бабуліны куфры. На выставу яны прапанавалі рэчы, вытканыя і вышытыя ўласнымі рукамі.

Асобна экспанаваліся ручнікі — даўнейшыя і вытканыя нядаўна. Але ўсіх іх яднала творчая пераемнасць беларускіх народных традыцый. А якое неабходна ўменне, колькі патрэбна любві да справы, каб са звычайнага кавалка дрэва ці простай залацістай саломкі вырабіць прыгожую вазу, ларэц, наборы посуду, мэблю, настольныя гульні, іншыя адмысловыя рэчы!

Аглядаючы экспазіцыю, наведвальнікі глядзелі з захапленнем на творы народных умельцаў Мікалая Няхая з Лядаў, Уладзіміра Крупеніка з Горак, Валянціна Астапенкі, Уладзіміра Кірылава, Канстанціна Сарманта з Чэрвеня, іншых майстроў «залатыя рукі».

Трапяткім і лірычным веяла ад карцін мастака Міхаіла Казюлькі. Несумненна, што яго сэрца перапаўнялі светлыя пачуцці любові да родных мясцін. Глядзіш на іх, і, здаецца, сам бываў тут, разам з мастаком любаваўся разнастайнай палітрай дубраў, паплавоў, азёр, рэчак. Узнёслыя думкі і пачуцці выклікаюць творы «Бераг, сосны», «Любімая дубрава», «Вясна на Волме», «Ведрыца раніцай».

Тонкім, назіральным пейзажыстам вырас і тутэйшы мастак Генадзь Лебедзь з Натальеўска (побач з Чэрвенем). Ён экспанаваў на выставе звыш дзесяці карцін, якія сведчаць аб захапленні аўтара непаўторнай прыродай нашага краю. Ля кожнай з іх хочацца ў роздуме пастаяць, паслухаць свой уласны ўнутраны голас... Асабліва радуюць вочы карціны «Вуліца будуецца», «Зіма», «Зімовы пейзаж», «Ранак у Клінку», «Рыбгас», «Стагі», «Клён ля ракі».

Не адвесці вачэй і ад абрусаў, рознакаляровых сурвэтак, макрамэ, вязаных рэчаў, дзіцячых мяккіх цацак Софіі Лукашэвіч з Дубравы, Аляксандры Лебедзь з Натальеўска, Таццяны Гарбуновай з Чэрвеня, Наталлі Жук са Смілавіч.

Цяжка пералічыць народныя вырабы нашых землякоў, не назавеш прозвішчаў усіх, хто паказаў на радасць людзям тое, што дзесяцігоддзямі ў старадаўніх куфрах ляжала. Хочацца падзякаваць вяскоўцам і гараджанам за тое, што адгукнуліся на просьбу калектыва музея і дапамаглі зрабіць выставу.

На заканчэнне варта адзначыць: жыве на Чэрвеньшчыне неўміручы дух народнай творчасці, не перавяліся ў нас народныя ўмельцы. І вельмі прыемна, калі на выставе побач з прадметамі ткацтва, вышыўкі, вязання, разьбы па дрэве прадстаўлены вырабы твораў маладога пакалення — выхаванцаў раённага Дома дзіцячай творчасці Марыны Няборскай, Лены Цыгановіч, Наташы Кедзіч.

Гэта азначае, што творчыя народныя традыцыі з поспехам пераймаюцца.

**А. РУРЫК,**
**навуковы супрацоўнік Чэрвеньскага краязнаўчага музея.**

ЧЫТАЛІ?

# Выданні Беларускай каталіцкай грамады

Убачыў свет чарговы (трэці) нумар часопіса Беларускай каталіцкай грамады (БКГ) «Хрысціянская думка». Нумар адкрывае рубрыка «Духоўнае слова». Тут змешчана грунтоўная тэалагічная праца айца Льва Гарошкі «Душа», якая ўпершыню была выдадзена брашурай у 1948 годзе ў Парыжы і дагэтуль заставалася невядомай беларускаму чытачу. Мяркуем, што нашы грамадзяне, каму доўгі час забівалі галовы адыёзнай атэістычнай прапагандай, хто вырас ва ўмовах ваяўнічага бязбожніцтва, з цікавасцю пазнаёмяцца з зусім іншым поглядам на шэраг найважнейшых жыццёвых праблем, у прыватнасці, на трывалыя суадносіны духоўнага і цялеснага (матэрыяльнага) у асобе чалавека.

Друкуюцца ўрыўкі з паэмы былога вязня сталінскіх канцлагераў Лявона Случаніна (Л. Шпакоўскага) «Ісус Хрыстос», якія ахопліваюць найбольш драматычныя моманты з жыцця Збаўцы, апісаныя ў Новым Запавеце.

«Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове» — так называецца гутарка намесніка старшыні БКГ Алеся Бяляцкага з настаяцелем Вішнеўскага касцёла ксяндзом Уладзіславам Чарняўскім, апублікаваная пад рубрыкай «Учора — сёння — заўтра». Адзначым, што айца Уладзіслава па заслугах называюць жывой легендай беларускага каталіцызму. Пра сваю долю, сваё служэнне Богу ён і расказвае чытачам.

Вядомы навуковец, дырэктар Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс у артыкуле «Два рэлігійныя вершы XVIII стагоддзя» аналізуе два, раней невядомыя беларускія паэтычныя творы, знойдзеныя ім у Віленскім гістарычным архіве. Прафесар А. Мальдзіс лічыць, што аўтарам згаданых вершаў з'яўляецца, хутчэй за ўсё, Дамінік Рудніцкі — прадстаўнік позняга барока, які «пісаў на польскай і беларускай мовах, у свой час карыстаўся вялікай папулярнасцю, але сёння амаль зусім забыты».

Павінна прыцягнуць чытацкую ўвагу і даследаванне Уладзіміра Неўдаха «Арганная культура на Беларусі», дзе аўтар ці не ўпершыню ўсебакова аналізуе ролю арганнай культуры ў духоўным жыцці нашых продкаў у далёкім мінулым. Да матэрыялу дадаецца табліца, у якой змешчаны разнастайныя звесткі пра найбольш вядомыя арганы на Беларусі.

Пад рубрыкай «Спрадвечнае» ў нумары апублікаваны змястоўны артыкул доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча «Уніяцкая царква на Беларусі ў канцы XVII — пачатку XIX стагоддзяў». Абапіраючыся на архіўныя і іншыя дакументальныя звесткі, аўтар прыходзіць да наступнай высновы: «Уніяцкая царква... у XVIII стагоддзі ахапіла сваёй душпастарскай дзейнасцю шырокія масы гарадскога і асабліва сельскага насельніцтва... 75 працэнтаў жыхароў Беларусі былі уніятамі (у сельскай мясцовасці 80 працэнтаў)». У сувязі з гэтым хочацца дадаць, што сённяшнія прэтэнзіі Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы на ўласную ролю тут гістарычнага рэлігійнага лідэра выглядаюць, мякка кажучы, неабгрунтаванымі.

Часопіс друкуе таксама заканчэнне «Расказаў з гісторыі Беларусі для школы і народу» айца Адама Станкевіча, пад рубрыкай «У каталіцкім свеце» — нататкі Яўгена Шунейкі «У бязмежную даль», прысвечаныя касцёльным храмам, размешчаным на абшарах былой бяскрайняй Расійскай імперыі. А праваслаўны семінарыст Алесь Кароль дзеліцца сваімі супярэчлівымі ўражаннямі, якія нарадзіліся ў яго пасля знаёмства з каталіцкім жыццём Францыі. Ёсць у часопісе і рэцэнзіі, рэзюме зместу нумара на некалькіх мовах.

Нядаўна ўбачыла свет новае перыядычнае выданне БКГ. У звароце выдаўцоў гаворыцца: «Шаноўны чытач! Ты трымаеш у руках першы нумар беларускамоўнага варыянта часопіса «Рыцар Беззаганнай», вядомага ў Польшчы пад назвай «Рыцэж Непокалянэй»... «Рыцэж» пачаў выходзіць менавіта на беларускай зямлі, у Гародні, у 1922 годзе, дзякуючы ахвярнай працы айцоў-францішканцаў — айца Максіміліяна Кольбэ і ягоных паплечнікаў. У... 1994 годзе мы будзем публікаваць матэрыялы і пра каталіцкае жыццё на Беларусі. Спадзяёмся, наш часопіс стане жаданым у кожнай каталіцкай сям'і».

Нумар адкрываецца сардэчным благаслаўленнем архібіскупа Казіміра Свёнтака, мітрапаліта менскага, магілёўскага, апостальскага адміністратара Пінскай дыецэзіі. Частка матэрыялаў часопіса прысвечана яго заснавальніку — айцу Максіміліяну Кольбэ. Друкуецца, у прыватнасці, біяграфія Кольбэ, жыццё якога трагічна абарвалася ад рук фашысцкіх катаў у канцлагеры Асвенцым.

Адзін з самых цікавых, на нашу думку, артыкулаў нумара — «Вера Ньютана» ксяндза Станіслава Кнапа. Даследчыкі жыццёвага шляху гэтага выдатнага фізіка,— адзначае аўтар,— «падлічылі, што ў (яго) працах... знаходзіцца 1 200 000 слоў на тэму рэлігіі... Для многіх сучаснікаў Ньютан можа быць узорам шматлікіх цнот, настаўнікам у пошуках Праўды і пакорлівасці перад Таямніцай». Айцец Станіслаў лічыць таксама, што ў сённяшніх нашых умовах, якія вызначаюцца разнастайнымі поспехамі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, усё ж «варта было б часцей звяртацца да праўдзівай кнігі жыцця, а ёй і з'яўляецца Святое пісьмо». Добрым прыкладам такіх адносін да Бібліі якраз і застаецца Ньютан — вучоны сусветнай вядомасці.

Заканчваецца часопіс аглядам каталіцкіх навін розных краін нашай планеты.

Усім, каго зацікавіў змест апошняга нумара «Хрысціянскай думкі» і першага — «Рыцара Беззаганнай», паведамляем, што яны маюцца ў продажы ў сталічнай кнігарні «Светач» (пр. Машэрава), а таксама ў кіёску Таварыства беларускай мовы, размешчаным на праспекце Ф. Скарыны беларускай сталіцы.

**Мар'ян ВІЖ.**

# Беларускі народны каляндар

## Красавік

Пры ранняй і гарачай вясне тэмпература паветра ў красавіку можа даходзіць да +20 °С, а нават і да +30 °С, пры позняй і халоднай да —15 °С і нават да —23 °С. Надараецца ў гэтым месяцы і першы гром. Пачынаецца сяўба і іншыя палявыя работы. Сяляне спрадвеку прыслухоўваліся да «сігналаў» жывой прыроды: закракталі жабы, зазвінеў жаўрук над галавою, загрымеў гром у вышыні — значыць, пара выходзіць у поле, цёплыя пагодлівыя дзянькі не за гарамі. («Красавік у полі чорны, а ў бары белы», «Сей авёс, як камары з'явяцца», «Сей аўсы ў гразь — будзеш як князь», «Не сей пшаніцу наперад дубовага лісту», «У красавіку грымот — цёплы будзе год»).

1 (пятніца). **Пр.** *Дар'я Веснавая.* У некаторых раёнах Беларусі свята вясны; на апошні снег ды мароз выносілі адбельваць кужаль.

**Кат., Ун.** *Вялікая пятніца.*

2 (субота). **Пр.** *Памінальная служба.*

**Кат., Ун.** *Вялікая субота.*

3 (нядзеля). **Кат., Ун.** *Вялікдзень. Уваскрэсенне Госпада Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.*

**Пр.** *Нядзеля крыжапаклонная.*

4 (панядзелак). **Кат., Ун.** *Другі дзень Вялікадня.*

Усе дні гэтага тыдня называюцца «светлымі»: Светлы аўторак, Светлы чацвер, Светлая субота.

**Пр.** Васіль Сланечнік («Васіль Сланечнік ледзяшы са сцен здымае»).

У дасавецкі час беларусы адзначалі напярэдадні царкоўнага свята Дабравешчання язычніцкае веснавое свята Камаедзіцу, якое захавала перажыткі культу мядзведзя. У гэты дзень елі страву з гароху — «камы», а таксама аўсяны кісель, сушаны рэпнік. Свята мела абрадавы характар.

7 (чацвер). **Пр.** *Дабравешчанне (Благавешчанне, Звеставанне).* Свята адзначаецца за 9 месяцаў перад Калядамі.

8 (пятніца). *Аддане свята Дабравешчання. Сабор анёла Гаўрыіла.*

9 (субота). **Пр.** *Памінальная служба. Матрона* («На Матрону шчупак хвастом лёд прабівае»).

10 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля Тамаша.*

12 (аўторак). **Ун.** *Радаўніца.* Ушанаванне памяці нябожчыкаў на могілках.

14 (чацвер). **Пр.** *Мар'я.* У народзе прыкмячалі: калі на Мар'ю разводдзе, прыбывае вада — жніво будзе сухое.

15 (пятніца). **Пр.** *Палікарп.* У даўнейшым народным жыцці — пачатак бясхлебіцы.

16 (субота). **Пр.** *Мікіта* («На Мікіту няма ні зімы, ні лета», «Калі на Мікіту крыгаход, то няма ні клёву, ні лову рыбаловам»).

17 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля міраносцаў.*

18 (панядзелак). **Пр.** *Пачатак Пахвальнага тыдня перад Вербніцай.* У Пахвальную пятніцу быў звычай мыць дзяжу, у Пахвальную суботу не працавалі, а святкавалі. Асцерагаліся ўвесь тыдзень бяліць хаты і снаваць кросны. Казалі: «Пахвалішся зрабіць — не пахвалішся знасіць».

19 (аўторак). **Пр.** *Радзівонаў дзень.* На поўначы Беларусі яго лічылі пачаткам палявых работ.

23 (субота). **Ун.** *Юра-вялікамучанік.*

24 (нядзеля). **Пр.** *Вербніца (Вербная нядзеля, Вярба, Вербіца).* З народнага: «Не я б'ю, вярба б'е, за тыдзень — Вялікдзень. Будзь здаровы, як вада, будзь багаты, як зямля». З Вербніцы бярэ пачатак *Белы тыдзень*, або *Страсная сядміца.* Ад Вялікага панядзелка людзі рыхтуюцца да Вялікадня. Шмат павер'яў і абрадаў звязана з чыстым «чацвяртком». У Вялікую пятніцу веруючыя посцяць шчырым постам.

**Ун.** *Нядзеля расслабленага.*

25 (панядзелак). **Ун.** *Дзень Марка, апостала і евангеліста.*

26 (аўторак). *Дзень памяці Чарнобыля.*

27 (серада). **Пр.** *Градавая серада.* Забаранялася выконваць земляробчыя работы, каб град не пабіў збажыну.

28 (чацвер). **Ун.** *Дзень Кірылы Тураўскага, біскупа.*

**Пр.** *Андрэй.* Прысвятак. Сяўба канапель. Увечары дзяўчаты варожаць на замужжа.

29 (пятніца). **Пр.** *Арына, Ірына.* Прысвятак. Сяўба капусты на расаду.

30 (субота). **Пр.** *Засім.* Паводле падання, апякун пчаляроў. У гэты дзень расстаўлялі вуллі.

**Ун.** *Дзень апостала Якуба, брата Яна Багаслова.*

**І. К.**

## Свет нашых захапленняў



Лаўрэн Рыгоравіч Арэшка з Рэчыцы неўзабаве адзначыць уласнае 70-годдзе. Ён інвалід II групы, але жыццёвага аптымізму ветэрану, які шмат гадоў лепіць вырабы з гліны і з задавальненнем грае на скрыпцы, не займаць. Лаўрэна Рыгоравіча можна часта ўбачыць на рэпетыцыях і канцэртах ансамбля «Верасень» раённага таварыства інвалідаў, дзе ён яшчэ выконвае і прыпеўкі ўласнага сачынення.

**На здымку: Лаўрэн Арэшка.**

**Фота Сяргея Халадзіліна, БЕЛІНФАРМ.**

## ПАДЗЯКА

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказвае падзяку сябру Рэспубліканскай Рады ТБМ Радзіму Гаўрылавічу ГАРЭЦКАМУ за пералічаны на наш рахунак ганарар на карысць ТБМ у суме 90 тыс. рублёў.**

Сакратарыят ТБМ
імя Ф. Скарыны.

## УВАГА!

4 красавіка ў 21 гадзіну па першай праграме Беларускага радыё слухайце рэпартаж Зоі Каваленкі з пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны — «Мова — душа народа».

7 красавіка ў 22 гадзіны 30 хвілін — рэпартаж, прысвечаны газеце «Наша слова».

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**31 САКАВІКА, ЧАЦВЕР**

**13.30. Навіны.**
**13.40. «Залатыя рогі». Мастацкі фільм.**
**15.00. «Усё пра цябе». Фільм-канцэрт.**
**16.35. Тэлебачанне — школе. Мая радзіма — Беларусь. Беларусь у гады Другой сусветнай вайны.**
**16.55. «Усе мы родам з дзяцінства». I Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль. Частка першая.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.10. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**21.35. «Ніхто, акрамя цябе». Мастацкі фільм.**
**22.20. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**1 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА**

**13.30. Навіны.**
**14.20. «Без сына не прыходзь». Мастацкі фільм.**
**15.40. «Усе мы родам з дзяцінства». Частка другая.**
**17.15. «Вяртаемся ў сполах вясны». Маладыя літаратары часопіса «Першацвет».**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. Сёння — Дзень смеху. Трансляцыя з Дома літаратара.**
**21.00. Панарама.**
**21.35. «Ніхто, акрамя цябе». Мастацкі фільм.**
**22.20. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**2 КРАСАВІКА, СУБОТА**

**15.25. «Мой маленькі поні». Мультфільм.**
**18.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**21.50. «Тарцюф». Мастацкі фільм.**
**23.30. НІКа.**

**3 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ**

**7.30. Вялікдзень. Святочнае набажэнства. Трансляцыя з Менскага Кафедральнага касцёла.**
**10.35. Вялікдзень. Сустрэчы ў студыі «Існасць».**
**13.45. Вялікдзень. Сустрэчы ў студыі «Існасць».**
**14.30. Папараць-кветка. Шоу-віктарына для старшакласнікаў.**
**15.30. Вялікдзень. Сустрэчы ў студыі «Існасць».**
**17.05. Вялікдзень. Сустрэчы ў студыі «Існасць».**
**17.35. Беларусы ў Амерыцы. Перадача пятая.**
**20.00. Панарама.**
**21.10. «Бязвінныя з бруднымі рукамі». Мастацкі фільм.**

## Народная лякарня

***Д. Джарвіс: Рыцына і кукурузны алей***

**Адным са сродкаў народнай медыцыны з'яўляецца рыцына. Вядома, напрыклад, яе слабіцельнае дзеянне. Аднак мала хто ведае, што рыцына ўжываецца як вонкавы сродак для лячэння розных захворванняў скуры і падскурных тканак.**

**1. Каб вывесці барадаўку, у яе ўціраюць рыцыну на працягу прыкладна 20 мінут — на ноч і раніцай.**

**2. Рыцыну паспяхова скарыстоўваюць для лячэння язваў на целе.**

**3. Рыцынай змазваюць пупок новanароджанага, каб ён хутчэй загаіўся.**

**4. Жанчыны змазваюць рыцынай саскі, каб прыбавілася ў грудзях малака.**

**5. Пры пачырваненні і раздражненні вачэй у іх закапваюць па адной кроплі рыцыны.**

**6. Калі ў малых дзяцей дрэнна растуць або рэдкія валасы, рэкамендуецца старанна ўціраць у скуру галавы рыцыну на ноч. Раніцай галаву мыюць. Такую працэдуру робяць двойчы на тыдзень. Калі стан валасоў палепшыцца, дасягнуты эфект падтрымліваецца ўціраннем рыцыны ў галаву 1—2 разы на месяц. Такі сродак лячэння і ўмацавання валасоў рэкамендуецца ўсім.**

**7. Рыцыну скарыстоўваюць і ў якасці стымулятара росту броваў і расніц — уціраюць у скуру тры разы на тыдзень.**

**8. Прастуду і бранхіт лечаць сумессю рыцыны са шкіпінарам (на 2 сталовыя лыжкі падагрэтай рыцыны бяруць 1 сталовую лыжку шкіпінару). Сумесь злёгку ўціраюць у скуру, затым цёпла накрываюць хворага (робяць гэта на ноч). Пры моцнай прастудзе хворага расціраюць тры разы на дзень.**

**9. Рыцына лечыць любы парэз, балячку, ранку, сіняк.**

**10. Пы гемарoі таксама дапамагае рыцына — садзейнічае ліквідацыі захворвання.**

**11. Пачуццё болю і стомленасці знікае ў нагах поўнасцю, калі іх нацерці перад сном рыцынай, а затым надзець баваўняныя шкарпэткі. Такім чынам можна лячыць мазалі, асабліва мяккія — пад уздзеяннем рыцыны змякчаецца скура, праходзіць боль.** ***(Працяг будзе).***

## Афарызмы

***Душан РАДАВІЧ***

**Многія справы не давершаны толькі таму, што і не распачаты.**

**Быць ці не быць — гэта ў рэшце рэшт усё роўна; толькі ў рэшце рэшт.**

**Чаму з прамовамі выступаюць адны і тыя ж людзі? Няўжо няма іншых, якія таксама ўмеюць гаварыць.**

**Ёсць і такія, толькі яны б гаварылі нешта іншае.**

**Цяжкасці нашы часовыя, гэтаксама як і мы; дык павінны адысці — альбо яны, альбо мы.**

**У курцоў ёсць нейкія іншыя прычыны, чаго яны ўсё-такі жывуць. Бо ў тых, хто не курыць, прычына адна — таму што не кураць.**

**Зладзеі ўкралі ў нас будучыню.**

**Мусім жыць мінуўшчынай. Прынамсі тыя, у каго яна была.**

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83





Індэкс 63865. Зак. 67.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка
«Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

**Наклад 8948 паасобнікаў.**

**Падпісана ў друк 28.03.1994 г. у 15 гадзін.**